ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 6 (2408) 9 лютага 1995 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 100 рублёў.



### ЗА АПОШНІЯ ТРЫ ГАДЫ КОЛЬКАСЦЬ НАВУКОЎЦАЎ У БЕЛАРУСІ СКАРАЦІЛАСЯ Ў 2,5 РАЗА

## ПАТРЭБНА ІДЭЯ, А НЕ ІДЭАЛАГІЧНЫ ПОГЛЯД

**Кітайскі філосаф Канфуцый нікому не зычыў жыць у час вялікіх пераўтварэнняў. А вось мы ў яго трапілі. Наша жыццё сёння перапоўнена кантрастамі і парадоксамі. Не паспелі з карты гісторыі знікнуць "белыя плямы", як мы пачалі ў нашай рэчаіснасці сутыкацца з "чорнымі дзіркамі". Знікаюць у іх і эканоміка, вытворчасць, сельская гаспадарка. Пакуль яшчэ зачапілася адной нагой за край "дзіркі" навука. Ці ўтрымаецца!**

**Пагутарыць аб яе лёсе папрасілі мы доктара фізіка-матэматычных навук, члена-карэспандэнта Акадэміі навук Беларусі, дырэктара Інстытута малекулярнай і атамнай фізікі Аляксандра ВАЙТОВІЧА.**

*-- Аляксандр Паўлавіч, у холе інстытута я ўбачыла абвестку, што вы абраны правадзейным членам Еўрапейскай акадэміі навукі і мастацтваў. Дазвольце павіншаваць вас і патлумачце, калі ласка, што гэта за званне.*

-- Абранне для мяне самога нечаканае, і, шчыра кажучы, я пакуль не вельмі добра ведаю кола праблем, якія ахоплівае акадэмія. У лісце паведамляецца, што яна ставіць сваёй мэтай аналіз і вырашэнне праблем праз такія сусветныя арганізацыі, як ЮНЕСКА, Міжнародная арганізацыя аховы здароўя і праз узаемадзеянне паміж вучонымі і гэтымі арганізацыямі. Выбіраюцца туды толькі сябры нацыянальных акадэмій: акадэмікі і члены-карэспандэнты. У Беларусі ўжо ёсць адзін член гэтай акадэміі -- Барысевіч Мікалай Аляксандравіч. Ну і вось зараз абралі мяне.

*-- Калі нашых навукоўцаў ведаюць у свеце і нават абіраюць у такія вядомыя ўстановы, дык гэта сведчыць аб тым, што навука пакуль што жыве.*

-- Жыве, але толькі "пакуль што".

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## Алесь ЗВОНАК: "МАЮ ПРАВА ГАВАРЫЦЬ ПРАЎДУ"

*У гады сталінскага генацыду ў Беларусі было рэпрэсіравана каля двухсот пісьменнікаў -- у асноўным выхадцаў з бедных сялянскіх сем'яў, якія ўсёй душой віталі рэвалюцыю, прыход народнай улады, ахвярамі якой, насуперак усякаму здароваму сэнсу, яны сталі. Адна з самых трагічных дат у гісторыі беларускай літаратуры, як пісала газета "Звязда", -- 29 кастрычніка 1937 года: у адзін дзень было пакарана смерцю дзевяць пісьменнікаў. З таго пакалення рэпрэсіраваных літаратараў ацалелі і дажылі да нашых дзён нямногія. Тым больш каштоўныя для нас іх думкі, іх вопыт, іх погляд на наша сённяшняе жыццё. Паэт Алесь Звонак -- адзін з тых, у каго турма і ссылка адабралі дваццаць гадоў жыцця, пазбавілі магчымасці займацца творчасцю. Ён вызваліўся ў 1956 годзе, але "старыя раны" не перастаюць трывожыць. І пацвярджае гэта нізка вершаў, напісаных летась і надрукаваных у часопісе "Полымя". У кожным з іх або балючы ўспамін, або праекцыя даўніх падзей на нашу рэчаіснасць. Яшчэ напярэдадні Новага года я сустрэлася з Алесем (Пятром Барысавічам) ЗВОНАКАМ, і вось такая адбылася ў нас з ім гутарка.*

**-- Пётр Барысавіч, якія ў вас у маладосці былі погляды і перакананні, як ставіліся да савецкай улады, пакуль не трапілі ў турму! Як успрымалі Сталіна! Большасць жа савецкіх людзей сапраўды лічылі яго родным бацькам...**

-- Свае перакананні таго часу я не назваў бы антысавецкімі. Мы ўсе былі камсамольцамі, сынамі свайго часу, свайго народа. На пачатку 30-х гадоў я вучыўся ў Маскве ва універсітэце. А там яшчэ лунаў дух свабодалюбства, дух Дабралюбава і Чарнышэўскага. Мы супрацоўнічалі з "Правдой", "Комсомолкой", ТАССам і ведалі тое, чаго не было ў друку. Пачулі, што Сталін забіў жонку, ведалі пра Салаўкі, ішла гаворка пра Калыму. У нас паступова фарміраваліся не антысавецкія погляды, а крытычныя адносіны да ўсяго, у тым ліку і да абагаўлення асобы Сталіна. Не ўсе аднолькава ўспрымалі калектывізацыю, бо бачылі яе адмоўныя вынікі.

Ну а потым я на сабе адчуў усе "мерапрыемствы" ўлады па знішчэнню людзей: чатыры месяцы сядзеў у адзіночцы ў левай вежы мінскай турмы, якую хоць цяпер ужо варта было б аддаць пад музей, на Калыме 12-гадзінны рабочы дзень быў запоўнены "выхаваўчай" працай, хоць бы пры гэтым вязні насілі ваду з адной палонкі ў другую. Тым, хто працаваў у шахце, у дзень патрэбна пяць тысяч калорый, яны ж атрымлівалі толькі дзве.

**-- Здаецца, столькі ўжо напісана і расказана пра той змрочны час, і ўсё роўна не перастаеш здзіўляцца, як можна так жорстка абыходзіцца з уласным народам. Найбольшыя ж страты панесла тагачасная інтэлігенцыя!**

-- Не толькі інтэлігенцыя. Калі забілі Майсея Урыцкага, за некалькі дзён было знішчана 25 тысяч чалавек, тое ж адбылося і пасля забойства Кірава. Марксісты стралялі адзін у аднаго, а расплачваліся невінаватыя людзі. А наогул найбольш, канешне, расплачвалася інтэлігенцыя. Уявіце, што рабочых на Калыме амаль не было, сялян нямнога.

**-- А чаму так адбывалася!**

-- Таму што паход на нас ішоў з ленінскіх часоў, калі незабыўны Уладзімір Ільіч сказаў, прабачце за нецэнзурнае слова, што інтэлігенцыя -- гаўно. Сталін падхапіў трапны выраз і палітыку працягваў такую ж.

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Упрыгажэннем цэнтральнай плошчы Чачэрска стаў адрэстаўрыраваны будынак старадаўняй ратушы -- помніка архітэктуры XVIII стагоддзя (на здымку). Скончаны толькі вонкавыя работы, а калі будуць аформлены інтэр'еры унікальнага будынка, тут размесціцца гісторыка-этнаграфічны музей, для якога ўжо закуплена абсталяванне. Грошы на правядзенне ўнутраных рэстаўрацыйных работ выдзеліў Гомельскі аблвыканком.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ГОД СЯМ'І*

## ПА ЗАСЛУГАХ

**У Прадстаўніцтве ААН у Рэспубліцы Беларусь 1 лютага адбылася цырымонія ўручэння Ганаровага дыплома ААН членам Камітэта па правядзенню Года сям'і ў Беларусі. У ёй прынялі ўдзел віцэ-прэм'ер рэспублікі Уладзімір Русакевіч, міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч, дыпломы ўручаў прадстаўнік ААН у Рэспубліцы Беларусь пан Мэцью Каханэ.**

**У час цырымоніі У. Русакевіч адзначыў, што Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь былі прыняты законы аб фінансавай дапамозе сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, аб правах дзіцяці, распрацаваны Кодэкс аб сям'і і шлюбе. На думку Русакевіча, такім чынам з'явілася база, грунтуючыся на якой можна значна палепшыць становішча жанчыны і сям'і ў грамадстве. Пры Міністэрстве сацыяльнай абароны ўжо ствараюцца спецыяльныя структуры, якія будуць займацца пытаннямі сям'і, вырашэннем праблем жанчын у нашым грамадстве.**

*ДЗЕНЬ НАВУКІ*




**У канцы студзеня ў Беларусі адзначаўся Дзень навукі. Урачыстае пасяджэнне, прысвечанае гэтаму дню, адбылося ў Мінску. Нашы навукоўцы яшчэ не страцілі веры, што настануць лепшыя дні.**

**НА ЗДЫМКУ: у час пасяджэння.**

*ПАДАЕМ*

## СКАРАЧАЕЦЦА ВЫТВОРЧАСЦЬ

**Каля ста прамысловых прадпрыемстваў Гродзенскай вобласці, ці прыкладна 70 працэнтаў ад іх агульнай колькасці, скарацілі летась аб'ёмы вытворчасці. У параўнанні з 1993 годам імі недапастаўлена прадукцыі на 178 мільярдаў рублёў.**

**Значны спад дапушчаны такімі вядомымі прадпрыемствамі, як вытворчае аб'яднанне "Азот", вытворчае аб'яднанне "Хімвалакно", вытворчае аб'яднанне "Гродназнерга", прадзільна-нітачны камбінат. У той жа час толькі на 0,3 працэнта павялічылі выпуск сваёй прадукцыі машынабудаўнічыя і металаапрацоўчыя прадпрыемствы.**

## ВЫНІКІ ГОДА Ў ВЁСЦЫ

**Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь, валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі, па папярэдняй ацэнцы, склала ў 1994 годзе 5 696 мільярдаў рублёў.**

**Яе аб'ём у супастаўных цэнах у параўнанні з 1993 годам знізіўся на 14 працэнтаў, у тым ліку прадукцыі раслінаводства -- на 23 працэнты, жывёлагадоўлі -- на 6 працэнтаў. У асабістых гаспадарках насельніцтва валавая прадукцыя знізілася на 14 працэнтаў.**

**Узровень агульнай рэнтабельнасці па выніках 1994 года, па папярэдняй ацэнцы, складзе 15,3 працэнта супраць 22,8 працэнта ў 1993 годзе.**

*СТАТЫСТЫКА*

## ВАРОЧАЕМ МІЛЬЁНАМІ

**Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь, грашовыя даходы насельніцтва ў 1994 годзе павялічыліся ў параўнанні з 1993 годам у 19,7 раза і склалі 12 трыльёнаў рублёў.**

**У снежні 1994 года супраць снежня 1993-га яны павялічыліся ў 18,2 раза. Рэальныя грашовыя даходы за 1994 год (грашовыя даходы, скарэкціраваныя на індэкс спажывецкіх цэн) знізіліся ў параўнанні з 1993 годам на 15 працэнтаў.**

**З агульнага аб'ёму грашовых даходаў у 1994 годзе насельніцтвам было зрасходавана на пакупку тавараў і аплату паслуг 8 997 мільярдаў рублёў, ці 75 працэнтаў, уплату падаткаў і ўзносаў -- 1 982 мільярды рублёў (16,5 працэнта), на накапленне зберажэнняў ва ўкладах і каштоўных паперах -- 219 мільярдаў рублёў (1,8 працэнта), на пакупку валюты ў афіцыйна зарэгістраваных абменных пунктах -- 205 мільярдаў рублёў (1,7 працэнта). Сродкі, накіраваныя на спажыванне, у разліку на аднаго работніка ў лістападзе склалі 216,4 тысячы рублёў, у тым ліку сярэдняя заработная плата -- 197,6 тысячы, ці 91 працэнт ад сродкаў, накіраваных на спажыванне.**

*ДЭМАГРАФІЯ*

## НАС ПАМЕНШАЛА

**Паводле папярэдняй ацэнкі, колькасць насельніцтва Рэспублікі Беларусь на 1 студзеня 1995 года склала 10 346 тысяч чалавек і зменшылася за год на 21 тысячу, ці на 0,2 працэнта.**

**Скарачаецца натуральны прырост насельніцтва. За 1994 год колькасць народжаных зменшылася на 4 працэнты і склала 113 тысяч дзяцей, колькасць памершых за год павялічылася на 0,7 працэнта (129 тысяч чалавек). Па даных Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь, скарацілася міграцыя насельніцтва. Калі ў 1993 годзе ў краіну прыбыло 86 тысяч чалавек і выбыла ў краіны блізкага замежжа 47 тысяч чалавек, то ў 1994 годзе прыбыло 45 тысяч, выбыла -- 49 тысяч чалавек.**

## ПРАГНОЗ УЛАДЗІМІРА ПАШУКА

**На думку гомельскага вучонага Уладзіміра Пашука, калі крайне неспрыяльныя, па сутнасці катастрафічныя, тэндэнцыі ў дэмаграфічнай сітуацыі ў краіне не зменяцца да лепшага, то тэарэтычна можна прадказаць змяншэнне колькасці беларусаў у бліжэйшыя дзвесце гадоў да 1 мільёна чалавек. Вучоны мяркуе, што да 2300 года беларускай нацыі пагражае поўнае знікненне. Экалагічны крызіс яшчэ больш узмацняе працэс "паміранне нацыі".**

*ЧЭЧЭНСКАЕ РЭХА*

## ДАКАЦІЛАСЯ ДА БЕЛАРУСІ

**Гора чэчэнскай вайны пастукалася адразу ў два дамы на Магілёўшчыне. Загінулі 42-гадовы палкоўнік, ураджэнец вёскі Кледнявічы Дрыбінскага раёна Пётр Піскіжаў і 24-гадовы лейтэнант Сяргей Касмачоў з вёскі Заполле, што на Мсціслаўшчыне. Сялянскія хлопцы, яны скончылі ваенныя вучылішчы ў Расіі, а Піскіжаў -- і Ленінградскую акадэмію тылу. Абодва засталіся служыць у расійскай арміі. Так і трапілі на чэчэнскую вайну.**

**Палкоўніка прывезлі ў зачыненай труне. Аб гібелі лейтэнанта Сяргея Касмачова прыйшла пакуль толькі тэлеграма: "25 студзеня загінуў пры выкананні ўрадавага задання".**

*РАДОВІШЧЫ*

## СВОЙ ВУГАЛЬ

**З Брынеўскага радовішча бурага вугалю, размешчанага ў Петрыкаўскім раёне, шахтавым спосабам можна здабываць адзін мільён тон сыравіны штогод. Па разліках спецыялістаў, цана рэалізацыі адной тоны буравугальных брыкетаў складзе 231,6 тысячы рублёў (у цэнах на лістапад 1994 года), радавога вугалю — 129,9 тысячы рублёў.**

**Геолагамі "Беларусгеалогіі" даследавана плошча 20 квадратных кіламетраў, на якой запасы бурага вугалю складаюць 16 мільёнаў тон.**

*ДА 50-годдзя ПЕРАМОГІ*



**Напярэдадні 50-годдзя Вялікай Перамогі на Буйніцкім полі пад Магілёвам пачата стварэнне мемарыяла абаронцам горада. Да сённяшняга дня памяць іх увекавечваў толькі гранітны камень, дзе былі высечаны час бою і нумары воінскіх падраздзяленняў, што змагаліся тут у 1941 годзе.**

**Творчы калектыў архітэктараў абласнога цэнтра пад кіраўніцтвам Уладзіміра Чаленкі стварыў праект мемарыяла, у якім пяць архітэктурных элементаў -- капліца, звон памяці, вёска, возера "Слёзы маці", алея Сіманава. Усе яны будуць складаць адзіны мастацкі комплекс.**

**Цяпер на Буйніцкім полі пачата будаўніцтва помніка-капліцы.**

**НА ЗДЫМКУ: макет капліцы дэманструе архіепіскапу Магілёўскаму і Мсціслаўскаму МАКСІМУ архітэктар Уладзімір ЧАЛЕНКА (справа). Разам з архітэктарам Алегам БАРАНОЎСКІМ яны абмяркоўваюць памер і форму крыжа, які будзе вянчаць капліцу.**

*Б'ЮЦЬ ТРЫВОГУ*

## НЕ БУДУЙМА НА КАСЦЯХ

**Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій (БААПР) прыслала ў агенцтва РІД трывожную вестку.**

**Асацыяцыя паведамляе, што ў Вілейцы ў ходзе будаўнічых работ на месцы былой турмы, дзе цяпер узводзіцца анкалагічны корпус раённай бальніцы, выяўлены пахаванні. Вядома, што ў 30-я--40-я гады ў турме знаходзіліся палітзняволеныя, тут жа праводзіліся расстрэлы. Турэмная машына смерці працавала і ў гады фашысцкай акупацыі. У сувязі з гэтым БААПР звярнулася да мясцовых улад, у Пракуратуру рэспублікі, Вярхоўны Савет з просьбай спыніць будаўніцтва і правесці перапахаванне астанкаў.**

*ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ*

## ПОГЛЯД З ЦЕНЯВОГА КАБІНЕТА

У Мінску адбылася прэс-канферэнцыя парламенцкай апазіцыі і ценявога кабінета міністраў, прысвечаная ацэнцы пагадненняў паміж Беларуссю і Расіяй, якія былі падпісаны падчас візіту ў Мінск міністра замежных спраў Расіі Андрэя Козырава. Ва ўступным слове спадар Пазьняк зазначыў, што ў выніку праведзенай экспертызы гэтых дакументаў дэпутаты апазіцыі і ценявы кабінет прынялі заяву аб палітычнай сутнасці падпісаных пагадненняў. Аналіз паказвае, што сапраўдная мэта падпісаных пагадненняў заключаецца ў ліквідацыі Беларусі як суб'екта гаспадарання і як суб'екта міжнароднага права, бясплатны транзіт нафты, газу, электраэнергіі і тавараў праз тэрыторыю рэспублікі, сумеснае атрыманне агульнай мяжы з трэцімі краінамі, бясплатнае карыстанне ваеннымі базамі і ўцягванне Беларусі ў арбіту палітыкі цяперашняга кіраўніцтва Расіі. Мытная заходняя граніца Расіі згодна з гэтымі пагадненнямі будзе перасунута на беларуска-польскую, а мяжа паміж нашымі краінамі ўвогуле ліквідавана. Самыя дзеяздольныя прадпрыемствы Беларусі будуць выведзены з працэсу прыватызацыі грамадзянамі рэспублікі і трапяць у рукі расійскага бізнесу. Усё гэта сведчыць аб тым, што дакументы носяць палітычны характар і накіраваны на знішчэнне дзяржаўнасці нашай краіны, на ліквідацыю яе суверэнітэту і на інкарпарацыю Беларусі ў Расійскую Федэрацыю. Да таго ж, заўважыў лідэр парламенцкай апазіцыі, з прававога пункту гледжання, прэм'ер-міністр Чыгір не меў права падпісваць гэтыя пагадненні, бо толькі Прэзідэнт мае права ставіць свой подпіс пад такімі дакументамі. Так што, па сутнасці, адбылося парушэнне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Таксама заслугоўвае ўвагі выступленне Уладзіміра Заблоцкага, які, у прыватнасці, зазначыў, што Расіі зараз на фоне бойні ў Чэчні было вельмі патрэбна прадэманстраваць поспехі сваёй дыпламатыі. А вось ці трэба было Беларусі зараз падпісваць пагадненні з краінай, дзе так груба парушаюцца асноўныя правы і свабоды чалавека? Гэта цалкам нераўнапраўны дагавор, падкрэсліў Уладзімір Заблоцкі, які было б дакладней назваць дагаворам паміж удавам і трусом, бо Расія патрабуе ад Беларусі адмовіцца ад яе асноўнага рэсурсу -- геаграфічнага становішча і актыўна дапамагае рэспубліцы вызваліцца ад сваёй уласнасці і стаць крыніцай таннай працоўнай сілы. Палітыка Расіі, перанесеная на Беларусь, знішчыць яе, сказаў у канцы Уладзімір Заблоцкі. Ну а што тычыцца будучыні нашай эканомікі і ўласнай палітыкі кіраўніцтва рэспублікі, то яна стане зразумелай, калі мы прасочым былыя і будучыя маршруты дзяржаўных візітаў -- Узбекістан, Кітай, наперадзе -- Паўночная Карэя, Тайвань, Куба...

У заключным слове спадар Пазьняк сказаў, што апазіцыя разглядае падпісанне гэтых дакументаў як акт, які супярэчыць нацыянальным інтарэсам Беларусі і палажэнням яе Канстытуцыі, а таксама з'яву, якая ўтрымлівае ў сабе элементы нацыянальнай здрады. "Мы лічым, -- сказаў ён, -- што падпісанне гэтых дакументаў павінна стаць тэмай асобага разгляду ў вышэйшым заканадаўчым органе краіны -- Вярхоўным Савеце".

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

У БЕЛАРУСКУЮ сацыял-дэмакратычную грамаду прыняты новыя сябры. Імі сталі мастакі Уладзімір Басалыга і Васіль Шаранговіч -- рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў, а таксама Пётр Краўчанка, былы міністр замежных спраў Беларусі.

ПРАКУРАТУРА Беларусі спыніла крымінальную справу, узбуджаную адміністрацыяй Прэзідэнта супраць былога міністра абароны Паўла Казлоўскага. Няма доказаў сцвярджаць, нібыта былі выкарыстаны дзяржаўныя сродкі пры правядзенні вяселля сына былога міністра Андрэя Казлоўскага і дачкі спікера парламента Алены Грыб.

БОЛЬШ 1 мільёна долараў каштавала Беларусі навучанне 47 курсантаў і 33 афіцэраў беларускіх Узброеных Сіл у ваенных акадэміях і вучылішчах Расіі. Сёлета затраты гэтыя ўзрастуць, прынамсі, у 3 разы. Патрэбна свая акадэмія.

МАЗЫРСКІ нафтаперапрацоўчы завод адзначыў сваё 20-годдзе. Некалі ён перапрацоўваў да 16 мільёнаў тон нафтапрадуктаў у год, цалкам забяспечваў патрэбы ў бензіне Беларусі і значнай часткі заходніх рэгіёнаў Расіі і паўднёвых -- Украіны. У 1994 годзе Мазырскі завод перапрацаваў толькі 5 мільёнаў тон нафты.

МОЦНЫ пажар нанёс вялікую шкоду мемарыяльнаму музею-сядзібе Іллі Рэпіна ў Здраўневе. Агонь знішчыў вежу і ўвесь другі паверх будынка, а таксама экспанаты, якія там знаходзіліся. Значная частка дарагой мэблі і іншай музейнай маёмасці не падлягае ўжо рэстаўрацыі і аднаўленню. Мяркуюць, што пажар здарыўся з-за кароткага замыкання ў электраправодцы.

*ВАНДРОЎКА Ў НЯМЕЦКУЮ ТУРМУ*

# МЫ — НАЦЫЯ ЛІШНІХ ЛЮДЗЕЙ

ЁЙ 22 ГАДЫ. Заўсёды яна здзіўляла мяне сваёй упартасцю і тым, што добра ведала, чаго хацела дасягнуць у жыцці. А хацела яна мець нармальную працу, за якую будзе атрымліваць дастойную зарплату і жыць не ў галечы. Яна паступіла ў політэхнічную акадэмію. Паколькі адразу не ўдалося трапіць на эканамічную спецыяльнасць, Таня перавялася на яе на трэцім курсе. Паралельна вучылася на курсах англійскай мовы (вядома, што ў беларускіх вышэйшых навучальных установах узровень выкладання замежнай мовы вельмі нізкі. У тэхнічных ВНУ студэнты, як правіла, ведаюць на замежнай мове толькі назвы тэрмінаў).

За апошні год свайго навучання ў акадэміі Таня трапіла яшчэ на адны курсы, на гэты раз -- курсы бухгалтараў. У рэшце рэшт яна стала эканамістам, бухгалтарам, авалодала нядрэнна англійскай мовай і трошкі падвучыла нямецкую (пра апошняе пазней). У яе жыцці стварылася класічная сітуацыя: адукацыя ёсць, веды, здаецца, таксама, а працы няма. Таня давала аб'явы ў газеты, шукала працу з дапамогай знаёмых. Але ёй прапаноўвалі ці працу ў вельмі падазроных камерцыйных фірмах, ці не па спецыяльнасці -- кур'ерам у банку, касірам у абменным пункце валюты. У рэшце рэшт яна нечакана знікла, з'ехала ў Германію. Не адпачываць, а працаваць, канешне. Прыехала адтуль праз тры месяцы. За гэты тэрмін ёй удалося папрацаваць, убачыць Германію і... пасядзець у нямецкай турме. Бацька яе, калі Таня толькі збіралася ехаць туды, казаў: "Мяне насільна дзіцем падчас вайны гналі працаваць на немцаў. Ты едзеш туды сама. Не падабаецца мне гэта".

-- Дзе ты працавала, Таня? -- пытаюся ў яе.

-- Недалёка ад Кёльна.

-- Што ты там рабіла?

-- Ведаеш, у мяне з'явілася даволі няпэўная прапанова -- паехаць у Германію для ўдзелу ў шоу ў нейкіх танных барах. Калісьці я вучылася танцам. Я згадзілася. Так званы прадзюсер дапамог нам аформіць візы, набыў білеты. Канешне, з самага пачатку ўсё гэта нагадвала авантуру. Аднак хацелася паспрабаваць, убачыць іншае жыццё і падзарабіць. Тым больш, што сядзець на шыі бацькоў было ўжо проста нямёмка.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# ПАТРЭБНА ІДЭЯ, А НЕ ІДЭАЛАГІЧНЫ ПОГЛЯД

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Будучыня яе мне бачыцца вельмі змрочнай. Зразумейце, у чым тут справа. У 1990--1991 гадах суадносіны колькасці людзей, занятых у навуцы, і наогул працоўнага насельніцтва ў Беларусі можна было параўнаць з такімі высокаразвітымі краінамі, як Германія ці Францыя. За тры гады колькасць навукоўцаў скарацілася ў два разы. Горш, што працэс не спыняецца, таму мяркую, што напрыканцы мінулага года гэтая лічба дасягнула ўжо недзе 2,5 раза. Вось такі хуткі ідзе развал навукі.

*-- Чым вы гэта можаце патлумачыць?*

-- Па-першае, вельмі цяжкім матэрыяльным становішчам. Навукоўцы і раней не шмат атрымлівалі грошай, калі параўнаць з іншымі краінамі, але ў нашых маштабах заробак быў нядрэнным. У канцы 80-х гадоў кандыдат атрымліваў 300 рублёў, доктар навук -- 400, а доктар, загадчык лабараторыі 500. На пачатку гэтага года заробак доктара, які ўзначальвае лабараторыю, склаў усяго 258 тысяч рублёў, а ў дырэктара інстытута -- 362 тысячы! Больш таго, сёння на заробак вучонага амаль не ўплывае вучоная ступень, нікога ўжо не цікавіць, ці ты доктар, ці кандыдат навук, а таму няма ніякай зацікаўленасці абараняць дысертацыі. Вядома, мы можам узяць і прызначыць старшага навуковага супрацоўніка вядучым, і атрымае ён на 15 тысяч болей. Хіба гэта грошы? Нядаўна я паглядзеў наш спажывецкі мінімум, дык згодна з ім заробак старшага навуковага супрацоўніка меншы, чым патрэбна грошай на існаванне дзіцяці да трох гадоў! Калі ў найбліжэйшы час не адбудзецца радыкальных змен, баюся, што нашай навуцы ўжо нічога не дапаможа.

*-- З тых далёкіх часоў добра памятаецца лозунг "Навука -- рухавік прагрэсу". Сёння такое ўражанне, што рухавік выкінулі на сметнік, а тое, што зараз маем, хутчэй нагадвае рэгрэс. Дык што ж здарылася і хто, на вашу думку, вінаваты?*

-- Тут цяжка адназначна сказаць, хто вінаваты, але, шчыра кажучы, мяне вельмі здзіўляе і засмучае стаўленне да навукі нашых уладаў. Вось такі прыклад. Недзе гады два таму наведаў наш інстытут Станіслаў Шушкевіч. Дык што вы думаеце ён нам сказаў? А параіў ён навукоўцам ехаць за мяжу і там рабіць "сваю навуку". Не так даўно адкрываю газету "Рэспубліка" і тое ж самае чытаю ў інтэрв'ю нашага міністра працы спадара Саснова. Цікава: тлумачаць яны гэта тым, што навука -- справа інтэрнацыянальная і трэба працаваць на ўсё чалавецтва. І гэта кажуць дзяржаўныя мужы! Выходзіць, што тут мы не патрэбны. Затое нашым мазгам заўсёды ведалі цану ў Амерыцы, іншых краінах. Шмат хто і з'ехаў туды. Але гэты працэс павінен як мага хутчэй быць спынены. Нашы ўлады ў апошні час нагадваюць мне каланіяльных чыноўнікаў, якія некалі ўсё лепшае ў калоніі заўсёды адпраўлялі ў метраполію: золата, дыяменты і лепшых майстроў, якія потым гэтымі матэрыяламі аздаблялі там палацы. Такое стаўленне захавалася ў Беларусі і да гэтага часу. Трэба нарэшце зразумець, што без навукова-тэхнічнага прагрэсу надзея на лепшую будучыню дзяржавы ніколі не здзейсніцца. Так, няма ў нас шмат якой сыравіны. Але няма яе і ў Даніі, Бельгіі, Японіі. А людзі чамусьці там жывуць вельмі добра. Чаму? Там зусім іншае стаўленне да навукі, адукацыі, культуры. А ўсё гэта ўзаемазвязана: без навукі не будзе тэхнічнага прагрэсу, не будзе якаснай адукацыі, не будзе кваліфікаваных спецыялістаў і не будзе культуры. Пры адсутнасці пэўнай увагі да гэтых складаемых з боку дзяржавы -- нацыя не мае будучыні. Калі я быў у Бразіліі, то ніяк не мог зразумець, навошта мяне ўвесь час суправаджаюць. Аказалася, што напярэдадні адзін амерыканскі прафесар пайшоў адзін прагуляцца, і яго стукнулі па галаве, адабралі фотаапарат, і потым ён доўгі час ляжаў у шпіталі. Мы набліжаемся да такога ж крымінальнага становішча. А вазьміце краіны Афрыкі, у якіх дастаткова сыравіны, а які там узровень жыцця? Зноў чаму? Няцяжка здагадацца.

*-- Вы хочаце сказаць, што Беларусь чакае лёс Афрыкі ці Лацінскай Амерыкі?*

-- Сёння яшчэ няма пэўнага адказу. Калі нічога не зменіцца, яна можа апусціцца да ўзроўню Нігерыі. Але, на маю думку, пакуль ёсць патэнцыял, і пры спрыяльных умовах мы можам зраўняцца з Даніяй. Патрэбны неадкладныя меры.

*-- Магчыма, акрамя ўладаў, нешта залежыць і ад саміх навукоўцаў?*

-- Сапраўды, у нашым навуковым свеце існуе пакуль своеасаблівая самаізаляцыя. Мы сядзім як быццам у сваёй шкарлупіне, а з нас усе кпяць, і кожны штурхае, як хоча. Тут бы хацеў прыгадаць словы прэзідэнта Лукашэнкі, які сказаў слушна, што акадэмія, якая не жыве інтарэсамі і патрэбамі грамадства, грамадству не патрэбна. Ведаеце, якую ролю адыгрывала былая Акадэмія навук СССР? Ніякія важныя гаспадарчыя пытанні без яе не вырашаліся, асабліва тыя, што тычыліся развіцця космасу, ядзернай энергетыкі, напрамкаў тэхнічнага прагрэсу, новых тэхналогій, іншых вядучых даследаванняў. У нас такога вопыту няма, бо тады не было такой патрэбы, і вы ведаеце, чаму. Цяпер, калі мы ёсць незалежная дзяржава, акадэмія павінна стаць сапраўднай нацыянальнай акадэміяй Рэспублікі Беларусь і павінна адыгрываць тую ролю, якую некалі ў былой дзяржаве адыгрывала Акадэмія навук СССР. Без яе ўдзелу не павінны ні распрацоўвацца, ні прымацца асноўныя накірункі ў галіне эканомікі, навукова-тэхнічнага прагрэсу, нават палітыкі.

*-- Напрыканцы года я прысутнічала на падагульняючым сходзе аддзялення гуманітарных навук акадэміі. Скажу шчыра, уражанні вельмі сумныя. Кожны гаварыў толькі пра тое, што яму баліць. Амаль няма пэўных прапаноў выйсця са становішча, толькі "пытанні без адказаў, а адказы ў пустату".*

-- Калі бязладдзе ў грамадстве, то і ў акадэміі не інакш. Лічу, нармальна, калі ў розных людзей розныя палітычныя погляды, але яны не павінны адбівацца на навуцы. Пакуль гэтым злоўжываюць і прыродазнаўчыя, а тым больш гуманітарныя навукоўцы. Кожны павінен сумленна рабіць сваю справу на карысць дзяржавы. Паглядзіце, колькі зараз у грамадстве сацыяльных праблем, якія вымагаюць тэрміновага вырашэння: тут і злачыннасць, і законатворчасць, эканоміка. Тэрмінова патрэбна ідэя на дзяржаўным узроўні, якая б аб'ядната нацыю, грамадства. А навукоўцы збяруцца і часам у пошуках ісціны кіруюцца не аб'ектыўным аналізам, а ідэалагічным поглядам. Кожны павінен запытаць сябе сам: "Што ты робіш як прафесіянал, каб палепшыць гэтае жыццё?"

*-- Гэта важна, але на сёння ўжо недастаткова. Акрамя прафесіяналізму неабходна дзейсная дапамога.*

-- Падаецца, прэзідэнт Лукашэнка зразумеў нашыя патрэбы, і зараз мы вельмі спадзяемся на яго падтрымку. Наогул мне спадабалася яго прамова ў Акадэміі навук. Адзінае, з чым я не магу пагадзіцца, дык з той часткай, што тычыцца мовы. Асабіста я не ведаю ў акадэміі такіх людзей, каго б прымушалі яго навуковыя творы пісаць на беларускай мове. Не ведаю, каму патрэбна, каб наогул такое пытанне ўздымалася. Калі ёсць дзяржава, павінна быць і дзяржаўная мова. Так, мы павінны пісаць на мовах, якія будуць чытаць у свеце. Калі б я не друкаваўся на англійскай мове, ці абралі б мяне сёння правадзейным акадэмікам Еўрапейскай акадэміі?

*-- Аляксандр Паўлавіч, сярод так званых прыродазнаўчых навукоўцаў, не шмат хто размаўляе на роднай мове. Вы ж гаворыце добра па-беларуску...*

-- Я нарадзіўся ў Капыльскім раёне. З залатым медалём скончыў Цімкавіцкую сярэднюю школу, дзе выкладанне вялося толькі па-беларуску. У вёсцы, акрамя беларускай, іншай мовай не карысталіся. Калі я паступіў ва універсітэт, там ужо ўсе прадметы выкладаліся па-руску, што не прывяло да дадатковых складанасцей. Я рускую мову ведаў дастаткова добра, каб усё разумець, хоць не вельмі добра на ёй размаўляў. Такіх, як я, на курсе было не шмат. Вядома, трапіўшы ў новае асяроддзе, мы імкнуліся дасягнуць "пэўнага ўзроўню". Але беларуская мова не забылася. Наогул, лічу, што ў сённяшніх умовах адукаваны чалавек павінен ведаць як мінімум тры мовы: родну, рускую і англійскую.

*-- Спадар Вайтовіч, вы дырэктар новага інстытута, які вылучыўся з вядомага Інстытута фізікі. Вы самі кажаце пра тое, які зараз цяжкі час. Якая была ў гэтым патрэба?*

-- Тут некалькі прычын. Па-першае, у малой гаспадарцы заўсёды лягчэй навесці парадак. Дарэчы, у замежжы звычайна менавіта невялікія ўстановы да 100 чалавек займаюцца фундаментальнымі даследаваннямі. І гэта апраўдана: усе навідавоку, хутчэй выяўляюцца здольнасці, выпадковыя людзі адсейваюцца, лепшыя сувязі, часцей агульныя абмеркаванні. Галоўнае ж, адбылося выдзяленне па тэматыцы: мы займаемся фундаментальнымі пытаннямі структуры, будовы і ўласцівасцямі рэчыва. Даследаванні вядуцца ў асноўным спектраскапічнымі метадамі. У Інстытуце фізікі засталася лазерная фізіка, якая заўсёды была прыярытэтным накірункам, і мы былі там трошкі па-за ўвагай. Зараз мы на роўных. Больш таго, прыйшоў час, калі трэба шмат сіл аддаваць здабыванню сродкаў. З бюджэту мы атрымліваем усяго каля 50 працэнтаў ад патрэбы. Цяпер ходзіць "выбіваць" сродкі адзін дырэктар і другі. А таксама іх намеснікі. Але я разумею, што ў тым становішчы, у якім зараз апынулася Беларусь, дзяржава ў дастатковай ступені дапаможа нам яшчэ не хутка.

*-- Але, з другога боку, цяпер трэба ўтрымліваць дзве адміністрацыі, абслугоўваючыя службы.*

-- Рэчаіснасць такая, што працэнт на ўтрыманне дырэкцыі не павялічыўся, а скараціўся. Ад беднасці мы істотна скарацілі амаль усе службы. У адміністрацыі мінімум супрацоўнікаў, няма і патэнтнай службы. Людзі вынаходніцтвам амаль не займаюцца -- ад яго нічога не маем.

*-- Вы лічыце гэта станоўчым?*

-- Калі мы займаемся фундаментальнымі даследаваннямі, дык гэта нармальна. Ёсць і яшчэ адзін бок, які робіць гэты занятак бессэнсоўным. У дзяржаве дагэтуль не прыняты закон аб абароне інтэлектуальнай уласнасці. Кожны можа ўкрасці, што захоча. Ёсць прыклады "прадпрымальніцтва", калі чалавек пакідае лабараторыю, забірае ўсе распрацоўкі, што рабіліся пэўнай групай супрацоўнікаў, і ўтварае сваё прадпрыемства. І ніхто да яго не можа прад'явіць ніякіх прэтэнзій. Больш таго, калі я нават атрымаю патэнт, няма ніякіх гарантый, што яго не выкарыстаюць без аніякай спасылкі. Каб такое не здаралася, патрэбны спецыялісты, якія маглі б скласці патэнт такім чынам, каб сутнасць вынаходніцтва ўсё ж была зразумелая не кожнаму спецыялісту.

*-- Дык як жа вы сёння збіраецеся не толькі выжываць, але яшчэ й рухацца наперад?*

-- На мой погляд, зараз трэба развіваць навукаёмісты бізнес. Мне не вельмі падабаецца спалучэнне слоў "бізнес" і "навука". Магчыма, лепей гэта назваць навукаёмістай вытворчасцю. Неяк патрэбна зрабіць так, каб усё напрацаванае ў інстытуце адразу рэалізоўвалася і ўкаранялася, выраблялася і прадавалася з удзелам і пры поўнай інфармаванасці супрацоўнікаў-аўтараў і інстытута, каб абараніць іх інтэлектуальныя і матэрыяльныя правы. У нас ёсць доследная вытворчасць. Мы павінны шукаць шляхі арганізацыі нашых напрацовак і выкарыстоўваць усе магчымасці разам. Пакуль з таго, што мы распрацоўваем, маюць усе, акрамя нас. Нельга, каб так працягвалася далей. Мы павінны ад гэтага мець таксама пэўны працэнт: і для аўтараў, і на фундаментальныя даследаванні. Трэба стварыць умовы для працы нашых навукоўцаў, пакуль не страцілі ўсіх. На голым энтузіязме сёння не працягнеш. У 1992 годзе ў нас было 200 чалавек, сёння 175. Цякучка пакуль невялікая, і хацелася б захаваць свае кадры. Мы павінны знайсці сродкі і на абнаўленне абсталявання, бо эксперыментальная частка навукі можа загінуць, і тады застанецца толькі тэарэтычная. Гэтыя дзве праблемы трэба вырашыць тэрмінова. Нельга ўжо сядзець і чакаць, што нехта прыйдзе і дапаможа. Формаў тут шмат. Зараз мы шукаем найбольш эфектыўныя. Але падкрэслю яшчэ раз: галоўнае запусціць механізм, калі мы ад вырабаў, якія зроблены на падставе нашых распрацовак і якія карыстаюцца попытам і прадаюцца, будзем мець пэўны працэнт. У гэтым мне і бачыцца выйсце. Такім чынам мы дапаможам не толькі сабе, але і дзяржаве.

Гутарыла
**Таіса БАНДАРЭНКА.**

**БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ І АЧАРНЕННЯ**

# ЯК СЛУЧАКІ БАРАНІЛІ СВОЙ ДОМ

Вёскі Лютавічы і Дашнава занялі пасля баёў аддзелы 5-й роты на чале з падпаручнікам Клішэвічам. У палон узялі пяць чырвонаармейцаў. 7-я і 8-я роты змагаліся за вёску Мацкевічы. У напрамку Капыля занялі таксама вёску Цімкавічы (аддзелы Грозаўскага палка). Страты былі з абодвух бакоў.

30 лістапада вялі бai на ўсход ад Слуцка ў раёне вёскі Ужыца (Бабруйскі павет). Чырвоныя аддзелы ўпарта абаранялі падыходы да чыгункі, падцягнулі новыя сілы.

У Семежава тым часам усё прыбывалі ўцекачы, дэзерціры, ваеннапалонныя. Тых, хто паходзіў з беларускіх губерняў, не затрымлівалі, рэгістравалі і адпускалі. Частка з іх выконвала працу ў маёнтках, дзе ў асноўным паўстанцы бралі хлеб. Калі пачалося адступленне з Семежава, гэтыя людзі самі выстраіліся ў рады і пацягнуліся ўслед за адыходзячымі паўстанцамі.

Небеларусаў адпраўлялі ў польскія канцэнтрацыйныя лагеры згодна з дамовай з польскім ваенным кіраўніцтвам. Камуністаў, чырвоных камандзіраў, камісараў, як правіла, расстрэльвалі па рашэнню ваенна-палявога суда ці па загаду камандзіра брыгады. Васіль Русак сведчыў, што ўсяго расстралялі такім чынам 18 чалавек, у тым ліку членаў Вызнянскага рэўкома.

Камандаванне 16-й арміі вырашыла ачысціць нейтральную зону ад паўстанцаў. 4 снежня з раніцы ў яе межы былі ўведзены часці 8-й і 17-й дывізій. Кіраўніцтва барацьбой з паўстанцамі было ўскладзена на Рэўваенсавет 16-й арміі з падначаленнем яму ўсіх атрадаў унутранай службы, губчэка, асобых аддзелаў і загараджальных атрадаў. Спачатку чырвоныя занялі Вызну пасля ўпартага супраціўлення паўстанцкіх аддзелаў. 7 снежня паўстанцы пакінулі Семежава.

## ПОДЧЫЦЫ — ГРЫЦЭВІЧЫ — МОРАЧ — ЗААСТРАВЕЧЧА

7 снежня паўстанцы вымушаны былі пакінуць Семежава. Стаўка і Рада перабраліся ў Подчыцы. Вёска знаходзілася ў нейтральнай зоне, у дзвюх вярстах ад савецкай граніцы. Тут адчулі недахоп харчу. Мясцовае насельніцтва не было такім шчодрым, як у Семежаве. Папрокі ў адрас Рады, што не змагла стварыць запасаў, узмацніліся. Канфлікт паміж штабам і членамі Рады -- эсэрамі паглыбляўся, што адмоўна адбівалася на ходзе баявых дзеянняў. У Подчыцах доўга не затрымаліся, зноў пераехалі ў глыб нейтральнай зоны. Наступным прыпынкам, дзе пратрымаліся да 15 снежня, былі Грыцэвічы. Становішча ўскладнялася. Людзей касіў тыф. Брыгада стала падобная на качэўніцкі лазарэт. Пры гэтым адчуваўся вялікі недахоп харчу і лекаў. Як успамінаў У. Пракулевіч: "Усе мы, Жаўрыд, Якубецкі, я, круціліся ў пошуках хлеба. Якубецкі вёў перамовы з нясвіжскім войтам аб водпуску нам харчавання. Войт папярэдне спытаў у варшаўскага кіраўніцтва. Тыя адмовілі".

Паўстанцы былі вымушаны пачаць рэквізіцыі ў насельніцтва. Войта Грыцэвіч за непадпарадкаванне і прыхаванне харчу і падводаў распарадзіліся пакараць 25-ццю ўдарамі бізуна. Аднойчы аддзел паўстанцаў сутыкнуўся з абозам, які вёз у Польшчу прадукты. Як высветлілі, агенты польскага інтэнданцтва рэквізавалі іх у насельніцтва Слуцкага павета. Спасылаючыся на загад Рады N 1, які забараняў вываз прадуктаў са Случчыны, ваяры адабралі нарабаванае. Адбыўся вялікі скандал з мясцовай уладай. Умяшаліся жандары і мясцовы войт Чарноцкі, тым не менш прадукты не вярнулі.

На жаль, здараліся прыкрыя выпадкі рабаўніцтва мясцовага насельніцтва. Так, А. Мірановіч, адхілены раней ад пасады начальніка контрразведкі, ад польскіх улад атрымаў дазвол на фарміраванне коннага аддзела (партызанскага). Людзей ён набраў выпадковых. Частка гэтага атрада ноччу напала на вёску Малыя Ражаны, абрабаваўшы сялян. Забралі грошы і 10 коней. Але суд брыгады адрэагаваў адразу. Рабаўнікі былі жорстка пакараны ў прысутнасці вяскоўцаў. Двух з іх -- І. Міранчыка , які служыў у контрразведцы брыгады, і памочніка начальніка міліцыі (прозвішча невядома) -- расстралялі, як ініцыятараў грабяжу. Астатнім прапанавалі заключэнне ў польскія турмы (была дамова Беларускай Вайсковай камісіі, што асуджаныя судом брыгады будуць адбываць тэрмін пакарання ў польскіх турмах за адсутнасцю ўласных) ці публічнае пакаранне бізунамі (25 удараў). Усе аддалі перавагу палітычнай экзекуцыі. І глядачам прадаставілася магчымасць назіраць незвычайнае відовішча ў польскім стылі.

Сутычкі з Чырвонай Арміяй працягваліся. Звычайна гэта былі начныя налёты. 10 снежня быў зроблены напад на вёскі Крывасёлкі і Навасёлкі, у ноч на 12-е -- на вёску Старынь. Паўстанцы паспрабавалі адцясніць часці Чырвонай Арміі. 12 снежня яны занялі Семежава, пры гэтым захапілі вялікія запасы снарадаў. Прыклад мужнасці прадэманстравалі стральцы 2-й роты Слуцкага палка, якой камандаваў паручнік А. Курыловіч. 17 снежня зноў былі ў Вызне, а 19 адступілі. 20 снежня вымушаны былі зноў пакінуць і Семежава.

Слабым месцам паўстанцаў была нястача зброі. Спачатку налічвалася ўсяго 300 карабінаў, якія былі перададзены польскімі ўладамі, і 500 вінтовак, якія прынеслі самі паўстанцы. Частка зброі была атрымана ад дэзерціраў або ўзята ў якасці трафеяў. Усяго ў снежні брыгада мела ўжо 2 000 вінтовак і 10 кулямётаў. Гэта было непараўнальна з добрым узбраеннем рэгулярных часцей Чырвонай Арміі. Нават шэсць браневікоў прымалі ўдзел у наступленні на Слуцк. Удзельнік падзей успамінаў: "Без аружжа, без патронаў паўстанцы біліся, як львы". Роты паўстанцаў выходзілі на пазіцыі, маючы па 30--40 стрэльбаў на роту, бо больш не было... пасланцы брыгады прывезлі (ад Булак-Балаховіча. -- **Н.С**) шмат аружжа і баявога снараджэння, але было ўжо позна".

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 50—52 (1994 г.), №№ 1—5.**

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ.**

# МЫ — НАЦЫЯ ЛІШНІХ ЛЮДЗЕЙ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

Калі мы прыехалі ў Германію, высветлілася, што нас там не чакаюць. Нам прапанавалі жыць тыдзень за свой кошт у гатэлі і чакаць працы. Зразумела, мне такое было не па кішэні. Выпадкова я пазнаёмілася з чалавекам, які займаўся за пэўную плату ўладкаваннем на працу эмігрантаў. Мне ён прапанаваў месца ў піцэрыі. Я згадзілася. Але ж турысцкая віза, з якой я прыехала ў Германію, не дае дазволу на легальную працу ў гэтай краіне. Нелегальная праца -- рызыка. Я пайшла на гэта.

-- Рызыкавала, мабыць, не толькі ты, але і той, хто прымаў цябе на працу?

-- Канешне. Але ж як для мяне, так і для гаспадара піцэрыі рызыка была апраўданая. Вазьмі ён немца замест мяне, яму прыйшлося б, па-першае, плаціць у паўтара раза больш, чым мне, плаціць дзяржаве падаткі. Тут ужо ці пан, ці прапаў -- ці заплаціш вялікі штраф за выкарыстанне нелегальнай працоўнай сілы, ці зэканоміш шмат грошай.

-- Як табе працавалася ў той піцэрыі?

-- Я наразала гародніну для піцы. Дакладней, рабіла гэта не я, а спецыяльная машына. Я павінна была толькі пакласці гародніну, куды трэба. Праца там высокаарганізаваная. Спазненняў ці іншых парушэнняў дысцыпліны ў Германіі проста не разумеюць.

-- Колькі табе плацілі?

-- Спачатку гаспадар піцэрыі часта пытаўся, колькі б я атрымлівала за падобную працу на радзіме. Я не адказвала, бо разумела, што ад таго, што я скажу, залежыць мой заробак. У рэшце рэшт ён вызначыў для мяне плату -- 15 марак у гадзіну. У дзень я працавала 8--12 гадзін. Тое, што я зарабляла там за дзень, на Беларусі не зарабляе за месяц кваліфікаваны спецыяліст. Гэта страшна.

-- Таня, як усё ж такі ты трапіла ў турму?

-- Я там была два разы. З самага пачатку майго жыцця ў Германіі я ведала, што парушаю закон: калі ўлады даведаюцца пра тое, што я працую, у мяне могуць быць непрыемнасці. У Германіі, як мне здалося, адладжаная сістэма даносаў. Калі нехта чуе ў кафэ сярод абслугоўваючага персаналу замежную мову, ён тэлефануе ў паліцыю, за што пазней атрымлівае пэўную плату. Са мной, праўда, здарылася іншае. Я ішла па вячэрняй вуліцы. Мяне спынілі і папрасілі паказаць дакументы. Іх у мяне не было. Я пакінула іх на кватэры, дзе жыла. Для высвятлення асобы мяне пасадзілі ў турму на два тыдні. Выпусцілі нечакана і без усялякіх тлумачэнняў. Мабыць, яны рабілі запыт у пасольства дзеля ўдакладнення маіх даных ці што іншае.

Калі я прыйшла на сваю кватэру, то не знайшла там ні сваіх рэчаў, ні дакументаў. Мяне абрабавалі. Цяпер я ўжо ведала, што кожны дзень мяне могуць спыніць у любым месцы горада і арыштаваць з-за адсутнасці дакументаў. У пасольстве Беларусі, куды я звярталася, мне адказалі, што вырашыць свае праблемы я магу толькі праз нямецкую паліцыю. У турму я больш не хацела, і мне было вельмі страшна. Аднак я зноў пачала працаваць, набыла за 2 тыдні ўсе неабходныя мне рэчы. Але так не магло доўжыцца бясконца. Аднойчы ў магазіне я зрабіла нешта не так, не па-нямецку. Там зразумелі, што я іншаземка, патрабавалі паказаць дакументы. І я такім чынам зноў апынулася ў турме.

-- Што ёсць нямецкая турма?

-- Трэба сказаць, што мне пашанцавала: я трапіла не ў крымінальную турму, а ў турму для эмігрантаў. Сядзяць у той турме жанчыны самых розных нацыянальнасцей, колераў скуры. У камеры 4--6 чалавек. Ложкі не горшыя за нашы, інтэрнатаўскія, праўда, размешчаны ў 2 паверхі, па тыпу нар. У камеры -- тэлевізар, тут жа туалет. У адной з камер, дзе я сядзела, ён быў адгароджаны шырмай, у другой -- не. Рэжым дня ў нямецкай турме даволі свабодны. Працаваць не трэба. Сядзіш і чакаеш дазволу патэлефанаваць дадому ці адвакату. Мне здалося, што сістэмы, па якой дазвалялі б карыстацца тэлефонам, не было. Калі некалькі разоў просіш дазволу патэлефанаваць, як правіла, дазвалялі.

Увечары можна было наведаць залу, дзе стаяў вялікі тэлевізар.

-- На прагулку вас вадзілі?

-- Так. Але не кожны дзень, толькі пры добрым надвор'і.

-- Кажуць, што ў еўрапейскіх турмах кормяць, як у нашых рэстаранах...

-- Можа, сваіх грамадзян яны так і кормяць, але эмігрантаў ніхто асабліва не песціць. У нас было трохразовае харчаванне. Раніцай давалі вельмі дрэнную каву з хлебам. Да гэтага -- маргарын. На абед, як правіла, была бульба (вельмі шмат) і кавалак мяса. На вячэру пілі чай з булкай. Часам у нядзелю давалі суп, бывала салата і малако. Дарэчы, елі мы ў сваіх жа камерах. Ежу раздавалі самі зняволеныя. За гэта яны атрымлівалі некалькі марак у тыдзень (ім плацілі не грашыма, а цыгарэтамі ці іншай драбязой).

-- А ў цябе былі грошы ў турме?

-- Калі трапляеш у нямецкую турму, канфіскуюць усе грошы, якія былі пры табе, акрамя 50 марак. Іх можна траціць у турэмным буфеце: купляць шакалад, колу. Ёсць там некалькі аўтаматаў-прадаўцоў напіткаў і цыгарэт.

-- Як жа ты адтуль вызвалілася?

-- Як я пазней даведалася, мне быў прызначаны тэрмін з 18 кастрычніка па 18 снежня. Дадому мяне дэпарціравалі на пачатку снежня. Немцы, хоць і вельмі дысцыплінаваны, акуратны народ, аднак многія іх дзеянні нерацыянальныя. Яны трымаюць вялікую колькасць іншаземцаў у турмах. Гэта каштуе вялікіх грошай. Большасць людзей не можа выйсці з турмы з-за дрэннай працы пасольстваў, якія не пацвярджаюць асобу арыштанта. Я ведала жанчын з Украіны (іх затрымалі таксама з-за адсутнасці дакументаў), якія сядзелі ў турме каля паўгода.

Я выйшла адтуль дзякуючы намаганням свайго бацькі, які шмат разоў тэлефанаваў з Мінска ў пасольства Беларусі ў Германіі і прасіў, каб там успомнілі пра свайго грамадзяніна і пацвердзілі маю асобу. Выпусцілі мяне нечакана, як і першы раз. Дарэчы, фрау, якая была следчай па маёй справе, я нават і не бачыла. Затое яе подпіс стаіць на ўсіх паперах, з якімі я вярнулася дадому.

Я была пазбаўлена магчымасці трапіць на кватэру, якую здымала, дзе засталіся мае рэчы і грошы. Дзіўна, але да мяне ў турму неаднойчы прыходзіла фрау з камітэта па сацыяльнай дапамозе. Яна нават ездзіла на кватэру па мае рэчы, але амаль нічога не прывезла. Білет дадому мне купіў той жа камітэт. Дарэчы, чамусьці не больш танны білет на цягнік, а даражэйшы на самалёт, і не да Мінска, а да Масквы. Мабыць яны вельмі баяліся, каб я не ўцякла (з самалёта ж не саскочыш), таму і давезлі на паліцэйскай машыне аж да трапа. Пасля ночы ў Шарамецева-2 я нейкім цудам набыла білет на самалёт да Мінска і апынулася дома без грошай, з вялікім доўгам прадзюсеру, дзякуючы якому трапіла ў Германію.

-- Гэтая вандроўка была сур'ёзным выпрабаваннем для цябе...

-- Ведаеш, я добра разумею, што ўсе мае праблемы былі выкліканы толькі маімі ўчынкамі. Аднак у Германіі я пра многае даведалася, многае ўбачыла. Немцы -- нацыя, якая сябе паважае. Яны ўмеюць працаваць, і іх быт добра наладжаны. Яны паважаюць сваю мову. Калі да іх звяртаешся па-англійску, яны, нават ведаючы гэту мову, адказваюць па-нямецку.

Мяне вельмі ўразіла, як ставяцца да сваіх грамадзян у Ізраілі. Маладая дзяўчына з гэтай краіны, што сядзела са мной у камеры, бясконца тэлефанавала ў сваё пасольства, дадому. Пасольства Ізраіля прымала непасрэдны ўдзел у яе лёсе. Яна пастаянна адчувала і патрабавала ўвагі з боку сваёй дзяржавы. Ні адна жанчына з краін СНД гэтым пахваліцца не магла. У мяне ж не праходзіла там, не знікла тут пачуццё непатрэбнасці маёй асобы, маіх ведаў нашай дзяржаве. Мы не патрэбныя ні на Захадзе, ні ў сябе на радзіме. Мы -- нацыя лішніх людзей.

-- Ты зноў будзеш шукаць працу на радзіме, калі адпачнеш?

-- Я ўжо адпачыла, наглядзелася на цэны, не ніжэйшыя за нямецкія, і ўжо пашукала працу. Пакуль вынікаў няма. Хутчэй за ўсё я паеду працаваць у Японію. Бо тут няма пакуль ніякіх перспектыў.

**Алена СПАСЮК.**

321

**СТАЛІНСКІ ДРАКОН ПАЖЫРАЎ І САМОГА СЯБЕ.** У перадваенныя гады (1936–1941) карныя органы дабраліся да вайскоўцаў: рэпрэсіям падвергласся каля 45 тысяч камандзіраў Беларускай ваеннай акругі. Кампартыя -- галоўны вінОўнік унутрыдзяржаўнага тэрору -- сама стала аб'ектам вынішчэння. Беларускія камуністы страцілі 40 працэнтаў свайго складу. 16 чэрвеня 1937 года застрэліўся А.Чарвякоў, загінуў З.Жылуновіч. Галоўным маскоўскім "рэвізорам" мясцовых бальшавікоў выступае Малянкоў. У 1938 годзе рэпрэсіі пайшлі на спад і бумерангам вярнуліся да тых, хто іх здзяйсняў. Крамлёўскае кіраўніцтва вынішчала сведкаў сваіх злачынстваў. Пацярпелі і сталінскія каты беларускага народа, кіраўнікі з наркамата ўнутраных спраў БССР: З.Каўфман, М.Стаяноўскі, В.Ягаднін, Гепштэйн, Серышаў (расстраляны), Г.Упасаў, С.Левін, Я.Розкін (10-гадовая высылка). Быў расстраляны і начальнік Віцебскага гараддзела НКУС І.Гарбаленя, беларус па нацыянальнасці. Новы наркам унутраных спраў М.Берман даваў у 1938 годзе заданне арыштоўваць палякаў там, дзе яны ёсць, без усялякіх абвінаваўчых матэрыялаў. Палякамі, зразумела, лічыліся тады ўсе католікі. Але і іншым катам, што замянілі вынішчаных, не ўдалося пазбегнуць расстрэлу -- гэта старшыні АДПУ -- НКУС М.Берман, Л.Закоўскі, І.Ляпляеўскі, А.Наседкін, Р.Рапапорт, Л.Цанава.

**КОЛЬКАСЦЬ ВЫНІШЧАНЫХ.** Падчас масавага тэрору ў 30-я гады ў Беларусі загінулі дзесяткі тысяч людзей і сотні тысяч прайшлі праз ГУЛАГ. Усяго асуджаных было не менш

322

паўмільёна, а пакрыўджаных савецкай уладай -- намнога больш. Можа 2, а то і 3 мільёны. Гісторыкі падлічваюць, спрачаюцца.

**КУРАПАТЫ.** Рэпрэсіі суправаджаліся масавымі расстрэламі. Месцы сваіх злачынстваў камуністы старанна хавалі, забойствы праводзіліся патаемна, уначы. Цяперашняму лідэру апазіцыі ў беларускім парламенце, а былому археолагу Зянону Пазьняку ўдалося знайсці адно з такіх месцаў пад Мінскам, ва ўрочышчы Курапаты. Зараз пра гэта ведае ўвесь свет. Там у 1937–1941 гадах загінула не менш 30 тысяч жыхароў Беларусі. А колькі такіх месцаў яшчэ не адшукана...

**НЕПАКОРНЫЯ.** Рэпрэсіі змаглі істотна скалечыць беларускую нацыю, яе інтэлектуальны патэнцыял, яе прадпрымальніцкую праслойку. Воля ўсходніх беларусаў да самастойнага незалежнага жыцця была практычна зломлена. Нацыю выратавала толькі тое, што камуністы не паспелі ажыццявіць усе свае злачынствы над беларусамі заходнімі, якія да верасня 1939 года знаходзіліся пад польскай акупацыяй.

**АДНА З ПРЫЧЫН САМАЗАХАВАННЯ ТАТАЛІТАРЫЗМУ.** Невыносны акупацыйны маскоўскі рэжым нельга было цярпець. Ён павінен быў мець ворагаў, людзі павінны былі гуртавацца ў нацыянальна-вызваленчыя арганізацыі і партыі. Але камуністычнае кіраўніцтва ў цэнтры геніяльна папярэджвала намеры сваіх працўнікаў. Часцей за ўсё яны не паспявалі да арыштаў праявіць сябе. Тэрор накіроўваўся супраць патэнцыяльных барацьбітоў супраць акупацыйнага рэжыму. І гэтым ён ратаваўся.

323

Незадавальненне скіроўвалася тады не супраць савецкай улады і не супраць сацыялістычнай ідэі. Беларусы марылі пра ўласную савецкую ўладу, пра ўласны сацыялізм без дыктату Масквы. Але да 30-х гадоў сталіністы літаральна вырвалі вальнадумцаў. Рэпрэсіўная машына працавала па інерцыі. Звычайных крыміналістаў выдавалі за ворагаў сацыялізму. І зараз ёсць памкненні аб'явіць хабарнікаў і казнакрадаў ворагамі "рыначных адносін". За 1993 год іх набралася больш 100 тысяч. Гэта ў 5 разоў болей, чым было арыштавана ў 1937 годзе. У неасталіністаў ёсць шанц трапіць у кнігу рэкордаў Гінеса.

## 30. АПОШНІЯ ВОСЕМ ГОД СА СТАЛІНЫМ. 1945—1953

9 мая 1945 года святкаваўся Дзень Перамогі. Гэта была надзвычай радасная падзея. Людзі адзначалі сваю перамогу над смерцю. Вайна паяднала народы СССР крою, а перамога яднала радасцю і гонарам. Належаць да ліку пераможцаў было і ганарова, і прыемна. Пераможцы заслугоўвалі больш годнага, чым да вайны, жыцця і спадзяваліся, што яно наступіць. Але ці спраўдзіліся іх надзеі?

324

### 30.1. Рэха вайны

**МІЖНАРОДНАЕ ПРЫЗНАННЕ.** Беларусь унесла ў перамогу над фашызмам уклад не меншы, чым Францыя ці Польшча. У дзеючай арміі ваявала больш мільёна беларусаў. Не выпадкова кіраўнікі антыгітлераўскай кааліцыі надалі БССР права заснавальніцы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (ААН). Беларуская дэлегацыя 26 чэрвеня 1945 года падпісала Статут ААН.

**СТРАТА БЕЛАСТОЧЧЫНЫ.** Крамлёўскія дыктатары не лічыліся з узрослым міжнародным аўтарытэтам Беларусі. У 1944 годзе камуністычнае кіраўніцтва Польшчы на чале з Б.Берутам выпрасіла ў Сталіна Беластоцкую вобласць. Вызначаная ў 1919 годзе краінамі Антанты "лінія Керзана" станавілася дзяржаўнай савецка-польскай мяжой. Такое размежаванне ўхвалялі і Чэрчыль з Рузвельтам. Беларускі народ, яго нацыянальнае багацце другі раз дзяліліся паміж Расіяй і Польшчай. Сталін шукаў сярод палякаў верных саюзнікаў, а з беларусаў Беласточчыны рабіў у Польшчы на ўсякі выпадак "пятую калону".

**АБМЕН НАСЕЛЬНІЦТВАМ З ПОЛЬШЧАЙ.** У адпаведнасці з беларуска-польскім пагадненнем 9 верасня 1944 года на Беласточчыне пачала працаваць савецкая камісія па эвакуацыі. За 2 гады ёй удалося перасяліць у СССР каля 36 тысяч чалавек (у тым ліку 20,4 тысячы -- у Беларусь). Ад запланаванай бальшавікамі лічбы гэта складала толькі 30 працэнтаў. Нягледзячы на абяцанні і прымус, усеагульнага жадання бе-

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

325

ларусаў і украінцаў перабрацца ў "савецкі рай" не назіралася. Перазджалі пераважна былыя працаўнікі даваеннага савецкага апарату ды збяднелыя сяляне і рабочыя. Той, хто меў свой кавалак зямлі, моцна трымаўся Бацькаўшчыны.

Затое жадаючых перасяліцца з Беларусі ў Польшчу набралася да 520,5 тысячы чалавек. Беларусы-каталікі і нават рускія выдавалі сябе за палякаў, абы пазбавіцца сталінскага рэжыму. Вёскі, якія да вайны лічыліся беларускімі, станавіліся польскімі, а іх насельніцтва пагалоўна запісвалася на выезд. Жаданне пакінуць СССР выказала большасць заходнебеларускай інтэлігенцыі. Правы на пераезд мелі і заходнебеларускія яўрэі. У 1947 годзе Масква зачыніла вароты. Выехаць паспела 232,2 тысячы чалавек, сярод якіх большасць было беларусаў.

**ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ СПЕЦЫФІКА.** У 1945--1948 гадах Гродзеншчына, Брэстчына, Маладзечаншчына ды і захад Полаччыны фактычна знаходзіліся на ваенным становішчы. Акаўцы змагаліся за ўзнаўленне межаў 1939 года. А ўкраінскія нацыяналісты бачылі поўдзень Брестчыны ў складзе будучай незалежнай Украіны. Узнавілася пасля разгрому 1944 года і беларускае падполле на чале з Вітушкам. Звесткі нядаўна рассакрэчаных партыйных дакументаў сведчаць: да пачатку 1947 года савецкія органы бяспекі БССР ліквідавалі 814 падпольных арганізацый і ўзброеных атрадаў па 40--50 чалавек, у тым ліку 667 польскіх, 97 беларускіх, 23 украінскія і 27 іншых. Савецкая ўлада ў гэтай барацьбе згубіла 924 чалавекі забітымі. Гарады і вёскі кантраляваліся аддзе-

326

ламі Чырвонай Арміі і НКУС. Антысавецкае падполле мела маўклівую падтрымку сярод мясцовага насельніцтва. Але ў лясы ішлі толькі найбольш пакрыўджаныя савецкай уладай. У 1948--1949 гадах "лясныя браты" дзейнічалі яшчэ актыўна.

### 30.2. Узнаўленне таталітарызму

**ДЗЕЙНАСЦЬ СТАЛІНСКІХ КАРНІКАЎ.** У Беларусі стварыўся разгалінаваны карны апарат. Ён доўгі час займаўся праверкай палітычнай добранадзейнасці насельніцтва, што знаходзілася пад нямецкай акупацыяй, а таксама былых ваеннапалонных і рэпатрыянтаў. На працягу амаль 40 пасляваенных гадоў гэтыя грамадзяне абмяжоўваліся ў правах, стаялі на спецуліку ці беспадстаўна праследаваліся. Не адна тысяча "здраднікаў" была пакарана смерцю або апынулася ў сталінскіх лагерах.

**ПАДПАРАДКАВАННЕ МАСКВЕ.** Разгаліноўваўся і ўмацоўваўся прамаскоўская адміністрацыя. У 1946 годзе стварыліся новыя вобласці і раёны. Бальшавіцкі кіраўнік Беларусі П.Панамарэнка імкнуўся насадзіць на вышэйшыя пасады мясцовай улады рускіх -- пераважна тых, хто тут партызаніў. У лік абраннікаў уваходзілі і беларусы, калі яны добра выявілі сваю адданасць Маскве ўдзелам у партызанскім руху. За 1941-- 1946 гады працэнт рускіх у складзе наменклатуры ЦК КПБ(б) узрос з 19,5 да 26,9. Прадстаўніцтва ж яўрэяў скарацілася з 17,8 да 6,1 працэнта. Удзельная

327

вага беларусаў узрасла з 57 да 61,8 працэнта, але толькі коштам нізавых структур апарату. Грунтоўная "чыстка" партыйнай наменклатуры, якую ЦК рэспубліканскай арганізацыі правяло ў 1946--1948 гадах, яшчэ больш пацясніла беларусаў на вышэйшых мясцовай сталінскай адміністрацыі. У 1951 годзе ўрад БССР складаўся з 22 рускіх, аднаго грузіна, аднаго яўрэя і дзевяці беларусаў. Калі літоўцам, казахам, таджыкам яшчэ ўдавалася аберагаць нацыянальныя кадры і тым блакіраваць уплыў цэнтральных, саюзных органаў, то беларусам -- не. З усяго Саюза ў Беларусь збіраліся навукоўцы, выкладчыкі, інжынеры. Беларусаў жа высялялі на сталінскія будоўлі.

**ВЫВАЗ РАБОЧАЙ СІЛЫ Ў ГЛЫБІНЮ РАСІІ.** У 1948 годзе Масква загадала накіраваць 25 тысяч сялянскіх сем'яў на лесараспрацоўкі ў Карэла-Фінскую рэспубліку. Праўда, мінскае начальства згадзілася пасцаць не больш шасці тысяч. Моладзь Заходняй Беларусі адказвала на працоўную мабілізацыю дапучэннем да антысавецкага падполля. У 1950 годзе ў Карэлію павінна было перасяліцца 4 600 сем'яў. Але людзі адмаўляліся ехаць, бо ўцекачы расказвалі, што перасяленцаў з Беларусі ў Карэліі жывуць горш за арыштантаў. У канцы 1952 года Масква запатрабавала ад беларускага кіраўніцтва тры тысячы рабочых для будаўніцтва Чэлябінскага трубапракатнага завода.

**ВЫТРАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАСЦІ.** Новае партызанскае кіраўніцтва на доўгія гады расцягнула валтузню вакол так званых "буржуазных нацыяналістаў" Беларусі, а само тым часам рэзка ўзмацняла русіфікацыю карэннага на-

328

сельніцтва. Сігналам для гэтага стаў святочны тост Сталіна 24 мая 1945 года, калі рускі народ аб'яўляўся вядучай сілай Савецкага Саюза. Бальшавікі імкнуліся найперш вытравіць з беларусаў нацыянальную самасвядомасць, якая за гады нямецкай акупацыі ўзмацнела. У лютым 1945 года ЦК КПБ прыняў спецыяльную рэзалюцыю аб перавыхаванні грамадства ў духу савецкага патрыятызму і нянавісці да нямецкіх акупантаў, якіх ужо ў Беларусі не існавала. Адказнасць за злачынствы нацыстаў беспадстаўна перакладаліся і на беларускіх калабарацыяністаў. Натуральная варожасць да нацызму незаўважна трансфармавалася ў варожасць да пасляваенных беларускіх дзеячаў і ўсяго беларускага -- мовы, культуры, нацыянальных традыцый і сімвалаў. З падачы бальшавікоў слова "паліцай" стала самай моцнай абразай сярод беларусаў.

У жніўні 1947 года ЦК КПБ(б) прыняў спецыяльнае рашэнне "Аб прапагандзе савецкага патрыятызму". У ім асуджалася спроба беларускай інтэлігенцыі (пераважна заходнебеларускай) супрацьстаяць насаджэнню рускай культуры і не давяраць кіраўніцтву, якое ігнаравала нацыянальныя традыцыі. З 1947 года пераемнік П.Панамарэнкі М.Гусараў (1947--1950) узмацніў ідэалагічны тэрор і барацьбу з беларускім нацыяналізмам. Фармавалася сістэма партвучобы для засваення гісторыі ВКП(б) і біяграфіі Сталіна. Органам НКУС зноў трызніліся (магчыма, што і не без падстаў) падпольныя нацыяналістычныя арганізацыі ў шэрагу педвучылішч.

# Алесь ЗВОНАК:

# "МАЮ ПРАВА ГАВАРЫЦЬ ПРАЎДУ"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**-- Традыцыі жывучыя. Інтэлігенцыю пакуль што не арыштоўваюць, але стаўленне да яе не лепшае, чым у мінулыя часы.**

-- Іменна "пакуль што" не саджаюць. Але калі дазволіць разгон некаторым выпускнікам, то яны і да такога дойдуць. Да таго ж мы заўсёды адчувалі на сабе нацыянальны прыгнёт. Мы не маглі вывучаць гісторыю Беларусі, бо адзіным падручнікам была гісторыя, напісаная Ігнатоўскім. Калі Міхась Зарэцкі стварыў гістарычны раман "Крывічы", у якім гаварылася пра гістарычнае паходжанне нашага народа, яго мінулае, гераізм, то пісьменніка тут жа выключылі з партыі (я быў на тым сходзе). Ён прасіў, каб далі магчымасць дапісаць раман... Не дазволілі...

І Мяснікоў, і Кнорын -- усе, хто лічыўся нашымі правадырамі, былі супраць беларускай дзяржаўнасці. Цяпер усхваляюць Машэрава, хацелі б запісаць яго ў "отцы белорусской нации". Але ж гэты чалавек сядзеў ва ўтульным кабінеце ў прыгожым будынку па вуліцы Карла Маркса і пазіраў на Крамлёўскія палацы, жадаючы туды перабрацца, а таму закрываў беларускія газеты і выдавецтвы. Выдавецтва "Ураджай", якое працуе для сялянства, не выпусціла на беларускай мове ніводнай кніжкі. "Калгасную праўду" і тую перайменавалі ў "Сельскую газету".

**-- У беларусаў так доўга і старанна выбівалі пачуццё нацыянальнай годнасці, што яны ніколі і не думалі абурацца падобнымі дзеяннямі. Цяперашнімі ўладамі працягваецца менавіта такая палітыка.**

-- Я лічу, што калі зменіцца 2--3 пакаленні, то можа і вернецца нацыянальная ідэя, дух, не кажу ўжо пра нацыянальны гонар. Я ганаруся, што я беларус, але мяне не кожны беларус сёння зразумее. Зусім натуральна, што які-небудзь фін, датчанін, нарвежац ганарыцца сваёй краінай, сваім народам і прыналежнасцю да яго. Кожны з гэтых народаў гатовы глотку перагрызці, каб толькі ніхто не ўмешваўся ў справы яго краіны. У нас жа прахадны двор, шмат людзей прышлых, абыякавых да ўсяго беларускага. Вы чулі тэорыю, што нацыяналізм бывае толькі буржуазны, пралетарскага быць не можа? А нас таму і называлі нацдэмамі. А гэта ўсяго толькі "навуковая творчасць" КДБ. Ясір Арафат змагаецца за незалежнасць і самастойнасць арабаў -- гэта нармальна. А калі беларусы хочуць мець сваю культуру, хочуць, каб іх дзеці вучыліся ў беларускіх школах, мелі сваю літаратуру, ведалі сваю багатую гісторыю, -- гэта нацыяналізм, супраць якога трэба змагацца.

Нацыянальнае адраджэнне -- заканамерны працэс для любога прыгнечанага народа, законы гістарычны працэс адраджэння нацыі, клопат аб яе дабрабыце. Толькі не для нас.

**-- Наша нацыянальнае адраджэнне, здаецца мне, пачалося даволі паспяхова, а цяпер яно нібы захлынулася, ідзе марудна. А ўжо што тычыцца дабрабыту нацыі, дык у кіраўнікоў дзяржавы клопат найменшы. Не хапае грошай народу на хлеб ды малако. А пра культуру і думаць ніхто не хоча, трацiць на яе сродкі.**

-- Ліхалецце, якое мы перажываем зараз, ліхалецце штучнае. Як некалі Сталін штучна стварыў голад на Украіне. Гэта ж трэба, праз 50 гадоў пасля "мірнага будаўніцтва сацыялізму" мы дайшлі да ручкі. Не здзіўлюся, калі сядзем і на карткі.

Нашы педагогі, урачы, работнікі культуры -- самыя жабракі. Калі я чытаю, што навуковы работнік на валютныя сродкі атрымлівае тры бананы, мне смешна. Я зарабляю ганарар 2--3 долары ў месяц -- гэта ўжо многа, і мне зноў смешна, бо я пудамі здабываў для краіны золата, працуючы на Поўначы галоўным геолагам аднаго з буйнейшых золатаздабываючых прадпрыемстваў.

Мне 88 гадоў. Дык калі я з гэтых 88 набяру 10, што мог больш-менш прыстойна жыць, будзе добра. Увесь час я меў толькі мінімум, а то і яго не было.

Беларусы маюць першага ў сваёй гісторыі прэзідэнта, але жыццё іх ад таго не палепшылася. Я не кажу, што Лукашэнка дрэнны прэзідэнт. Можа ён і стараецца, але ён не ведае, што рабіць, бо дыяпазон яго думкі не дасягае дзяржаўнага маштабу. Калі Сталін паставіў лейтэнанта камандуючым, той сам добра ваяваў, узнімаючы на бамбардзіроўшчыку, бамбіў, але камандаваць дывізіяй не змог.

**-- Пётр Барысавіч, вы яшчэ да вайны працавалі на Беларускім радыё. Што вы як прафесіянал можаце сказаць пра сённяшнія радыё- і тэлеперадачы, ці задавальняе вас іх змест, іх мова!**

-- З радыё, я думаю, справы абстаяць больш-менш прыстойна. Што тычыцца тэлебачання, то яго трэба або закрываць зусім, або рабіць сапраўды нацыянальным. Мы маем сваю беларускую тэлестудыю, якая на 90 працэнтаў вяшчае на чужой мове...

**-- А калі і гучыць нацыянальная мова, то ад яе страшна становіцца...**

-- Так, так. Ёсць дыктары, што добра гавораць па-беларуску, некаторыя выступленні нармальныя. Але ж самой мовы на тэлебачанні практычна няма, як няма і нацыянальнага тэлебачання.

І калі дзесяткі, сотні, тысячы беларусаў па паходжанні падпісваюць заяву, каб не адкрывалі беларускую школу, а адкрывалі рускую, гэта не проста здрада -- гэта наша прадукцыя. Гэта мы -- камуністы, камсамольцы, актывісты і прочая "інтэлігенцыя" -- выхавалі такіх людзей.

На мітынгу каля гарсавета пікетчыкі крычалі: "Адкрывайце рускія школы, мы хочам, каб нашы дзеці атрымлівалі нармальную адукацыю і былі нармальнымі людзьмі". Значыць, каб быць нармальным, адукаваным чалавекам, трэба вучыцца ў рускай школе. Гэта мы -- машэравы, кебічы, малафеевы, сакаловы -- затлумілі людзям свядомасць, скалечылі іх душы.

**-- Дык і цяпер ужо ў суверэннай Беларускай дзяржаве анічога не змянілася...**

-- Сапраўды, калі прэзідэнт краіны, каторы, паводле Канстытуцыі, абавязаны гаварыць са сваім народам на яго дзяржаўнай мове, выступае і размаўляе на чужой, большага абсурду ўявіць цяжка. А мы ж за яго прагаласавалі, ён жа народны абраннік. Ён, бачыце, нарадзіўся "на мяжы з рускім народам" і не прымае беларускай нацыі. Дык што ж ты прымаеш беларускі партфель? Што ж ты бярэшся мяне вучыць, як будаваць нацыянальную культуру? Гэта нонсенс, магчымы толькі ў такой унікальнай дзяржаве, як Беларусь. У Латвіі або Эстоніі такое немагчыма. Іх перавага ў тым, што камуністычнай ідэалогіі яны прыхапілі на 20 гадоў пазней. Затое, напрыклад, ва Узбекістане ўзбекі таксама не хочуць нацыянальных школ, аддаюць дзяцей пераважна ў рускія школы.

Я ведаю, што не адзінокі ў сваіх поглядах, але ж можа я найбольш востра і найбольш балюча ўсё гэта ўспрымаю, таму што менавіта за сваё, беларускае, я адпакутаваў, 20 гадоў жыцця аддаў на Крайняй Поўначы, вярнуўшыся з дзевятага круга таго Дантавага пекла, у якім лёс наканаваў мне пабываць. Так што дарэмна хлеб я не еў і таму маю права гаварыць праўду.

**-- Маеце, паважаны Пётр Барысавіч, права. Толькі дай Бог, каб вас пачулі тыя, да каго звернуты вашы шчырыя, усхваляваныя словы.**

Гутарыла
Дзіяна ЧАРКАСАВА.

---

Алесь ЗВОНАК

# СВЯТАЯ МАЦІ

## ТРЫПЦІХ

I

Узлёту прадугледжана падзенне.
Сцяне бяздушша -- непазбежна брэш,
Наручнікі на сэрца не надзенеш,
Душу у ланцугі не закуеш.

Так думаў я. Відаць, не перайначыш
На шлях шырокі вузкі чарнатроп.
Жыццё пражыта. Удачы і няўдачы
Ішлі не поплеч з ім, ішлі ў раздроб.

А ўсё ж надзея тлела ледзь жывая,
Што сэрца грэла, калі стыла кроў,
І хоць была на міласці скупая,
Была на беды ружаю вятроў,

Што гнала спраўна едкі пыл здарэнняў,
Што крыла хмарай яснату жыцця,
Бяспраўем горкім, збройным атачэннем,
Атрутным зеллем, зданню небыцця...

Але скрозь гул і рэха разбурэнняў,
Скрозь войнаў чад ты клікала здаля,
Ты абуджала лепшыя памкненні,
Святая Маці -- Родная Зямля!

Я не прымаў прысягу на каленях,
Твой пурпуровы сцяг не цалаваў,
Была зарукай вернасці й сумлення
Пазбегнуўшая плахі галава!

II

Пракляты век, шмат нарабіў ты хламу
З людскіх касцей, струхлелых чарапоў!
Са мною побач жыў Варлам Шаламаў,
Перад чыёю памяццю гатоў

Схіліцца нізка ў знак святой пашаны
За цвёрдасць духу, за трагічны лёс,
За непадданасць подласці і зману,
Што праз шаленства нелюдзей пранёс.

Яны ў вачах -- і Ягадны, і Дэбін,
І тройчы клятая штрафная Джэлгала!..
Жыццё на той, крывёй палітай глебе
Згарала ў полымі пакут датла.

Адной і той мядзведжаю сцяжынай
З нас кожны пеклам Дантавым прайшоў,
Ды не супалі нашы каляіны,
Каб скрыжаваць хоць раз душу з душой...

Перад журботнай памяццю ягонай,
Хто мужны дух праз мукі ўсе пранёс,
Я уздымаю горды шчыт Пагоні
І за яго й за свой пакутны лёс!

Бо кожны з нас абраз Святое Маці
Па-свойму ў сэрцы змучаным збярог:
Ён -- свой, я -- свой, каб кожны мог прыпасці
Да ног яе ў канцы крутых дарог!

III

Расчараванне ў светлым ідэале,
Як з паўдарогі павarот назад,
Замест ружовых абяцаных даляў
На шэры мур спалоханы пагляд.

Ах, колькі іх было, расчараванняў,
Дзе крок наперад, добрых два назад,
Дзе "развіты" дарыў нам за старанне
То дулю ў нос, то выспятак пад зад!

Так і жывём ад грыпу да інфаркту,
Што загрудкі хапае ўсё часцей...
Ат, хопіць! Добрай белавежскай кварту
Па крузе пусцім між сяброў-гасцей,

І пагамонім шчыра й пабядуем
Наконт ратунку -- зоны для рубля,
Хоць слова "зона" мне як стрэльбы дула,
І пад нагамі хадуном зямля...

Зямелька ж наша хворая смяротна,
Дух продкаў зноў на
вогненным крыжы...
Святая Маці, позірк твой маркотны,
Сляза ўваччу, хто ж вінен, адкажы!!

Чужыя ветры, тручаныя хмары
Твой мілы твар знявечылі ізноў
Крывым люстэркам сфальшаванай мары,
Усмешкай ненароджаных сыноў...

Не! Праз сузор'і Дзевы, Рака, Рыбы,
Праз кроплі зорнай залатой расы
Убачым мы не блізкую пагібель,
А дзіва-дзіў жывой зямной красы!

І калі нейкі прышлы ў эпалетах
З пагардай вучыць, як мне трэба жыць,
І на якой мне мове з панам гэтым
І размаўляць, і як яму служыць,

Я адкажу: мы курс навук аб мове
Праходзілі даўно ў свой школьны час,
А вось "чаго вам хочацца, панове!"
Няма Купалы -- ён спытаў бы ў вас!

Бог з ім, тым прышлым, з лексікай капрала,
Крыху паляскаў шпорамі і знік...
Мяне ж найбольш трывожаць падпявалы,
Хто, высунуўшы ўгодліва язык,

Аб нейкай "незалежнасці" лапоча
З працягнутай лакейскаю рукой,
Якой за тое й гэта ўзяцца хоча,
Хоць і няма магчымасці такой...

Што ж !! Боскіх спраў хоць і слабы
я знаўца,
Але звязаўшы ў вузел крыўды боль,
Я не падам рукі хрыстапрадаўцу,
А адрачэнцу-згодніку тым больш.

Чужым багам не будзем пакланяцца,
У кожнага свой родны кут і дом,
У кожнага адна Святая Маці,
Якую мы Радзімаю завём!

*1994.*

ВЕЧАРЫНА Раісы БАРАВІКОВАЙ

# АДГУКНУСЯ ГОЛАСАМ ЖАЛЕЙКІ

*Людзі, верце ў радасць,*
*Гэта вера --*
*Свету неспазнанага працяг!*

**А.ПЫСІН.**

Напрыканцы студзеня ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы была наладжана вечарына з нагоды прысуджэння выдатнай паэтэсе Раісе Баравіковай Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы за кнігу паэзіі "Люстэрка для самотнай", куды ўвайшлі вершы, пераклады, паэма "Барбара Радзівіл".

**Нас маладосць адорвае**
**каханнем, --**
**Каханне нас вяртае**
**ў маладосць.**

Назву вечарыне (дарэчы, як і выставе, што створана з асабістага архіва Р.Баравіковай -- а гэта выданні яе кніг, шматлікія фотаздымкі розных гадоў, цёплыя, кранальныя пісьмы і паштоўкі прыватных асобаў і грамадскіх установаў) дала сама паэтэса. Высокім зместам, што трымае ўсё лепшае і вечнае на зямлі, акрэслены вышэйпамянёныя радкі, бо каханне, як лічыць аўтар, самае цудоўнае і трапяткое пачуццё, якім чалавек выпрабоўваецца на вернасць, сумленнасць, высакароднасць. Вечарына ў гонар знакамітай паэтэсы сабрала ў сценах Дома Купалы яе шчырых прыхільнікаў: студэнцкую моладзь, настаўнікаў, выкладчыкаў ВНУ. Сваё выступленне перад прысутнымі Раіса Баравікова пачала вершам, прысвечаным Прароку нацыянальнага Адраджэння Янку Купалу:

**І я прыцішваю дыханне...**
**Там, дзе лісця ляжыць грудок,**
**Купала шэпча на світанні**
**свой недапісаны радок.**

Сярод шматлікіх зорак на небасхіле нашай літаратуры зіхаціць імя Раісы Баравіковай. Яна адна з самых яркіх прадстаўніц паэзіі нашага часу. Чароўны свет яе паэзіі, як водар, наталяе нас сваім хараством. Незвычайна чулая душа паэтэсы адчувалася ў кожным радку, якія яна, не стамляючыся, чытала.

**Мне сёння прыснілася хата...**
**У ёй мы калісьці жылі!**
**Вясною там бэзу багата,**
**звіняць над лугамі чмялі.**

**... За вокнамі стукалі колы,**
**зарою палаў далягляд,**
**і плакала я, бо ніколі**
**туды не вярнуся назад.**

Увесь час на гэтай светлай сустрэчы гаспадарыла, панавала Паэзія, бо Раіса Баравікова -- Боскай воляй Паэт! Галоўнае, што вылучае яе вершы, -- гэта канкрэтная жыццёвая споведзь, адлюстраванне тых падзей і момантаў, што прайшлі праз яе сэрца. Успаміны -- гэта стан душы чалавека. І Раіса Баравікова нагадала, што нарадзілася яна на Брэстчыне ў сям'і служачага. З дзяцінства ўражлівая, чуллівая дзяўчынка ўглядалася ў навакольны свет, спасцігала жыццё, адкрывала ў сабе дадзены Богам паэтычны дар. Увогуле паэтэса лічыць, што пісаць вершы -- гэта генетычны код іх старажытнага роду. Яе матуля Ніна Уладзіміраўна, з сялян, у дзяцінстве пісала вершы, хораша малявала, хаця і скончыла 4 класы польскай школы. З боку бацькі ягоны дзед Алімпій, будучы пастухом, увесь час са статкам праводзіў у полі сярод блізкіх сэрцу краявідаў і пісаў вершы. У размове Раіса Андрэеўна зазначыла: "Але чамусьці ўся паэтычная спадчына маіх сваякоў, я маю на ўвазе і сучасных родных, сышлася на мне".

Першы свой верш будучая паэтэса напісала ў шостым класе. Ён быў надрукаваны ў бярозаўскай раённай газеце. Трэба было бачыць і чуць, калі газета патрапіла ў вясковую школу, як вучні ўспрынялі, што сярод іх ёсць дзяўчынка, якая піша вершы. Скончыўшы ў 1965 годзе школу, Раіса паспрабавала паступіць у БДУ на філалагічны факультэт, але не прайшла па конкурсу. Жыццёвыя сцежкі прывялі яе ў Быхаў, дзе галоўным рэдактарам газеты "Маяк Прыдняпроўя" працаваў шчыры руплівец на ніве беларускасці, вялікі аматар паэзіі Георгій Барысаў. Пазнаёміўшыся са сшыткам вершаў, ён адразу ж залічыў дзяўчыну літсупрацоўнікам у штат газеты, дзе пазней друкаваліся яе вершы. З глыбокай цеплынёй Раіса Андрэеўна распавядала, што 30 гадоў таму, глыбокай восенню 1965 года, у рэдакцыю завітаў выдатны паэт-франтавік Аляксей Пысін. З гэтага моманту Аляксей Васільевіч узяў апеку над паэтэсай, якая, дарэчы, марыла ў той час прысвяціць сябе журналісцкай справе. Ён настойліва раіў пайсці ў літаратурны свет, бо найярчэй талент заўсёды развіваецца ў літаратурным асяроддзі, што дасць пэўную магчымасць праявіцца самабытнаму дару. Аляксей Пысін пераканаў паэтэсу паступіць у Літінстытут. Пасля заканчэння вучобы Раіса Андрэеўна працавала рэдактарам на кінастудыі "Беларусьфільм", карэспандэнтам штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", зараз паэтэса працуе намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Алеся" ("Работніца і сялянка"). Дачка сваёй Бацькаўшчыны, сумленная беларуска, якая мае гонар абвясціць свае адносіны да роднай зямлі:

**Яна мой скарб, раскоша**
**і набытак,**
**Яна сады, і неба, і ралля,**
**І нават дзень завершаны**
**нябытам,**
**будзе яна, --**
**глыбокая зямля.**

Мілагучнасць, сакавітасць, ёмістасць, прыгажосць роднай мовы, адной з самых старажытных славянскіх моваў, у творах Раісы Баравіковай бярэ нас у палон. Вершы Баравіковай -- гэта роздум пра чалавечы абавязак, долю жанчыны і пошук чалавечага шчасця, уменне распарадзіцца ім. Кранаюць чысцінёй вершы лірычнага плана, у якіх прысутнічаюць чаканне і расстань закаханых.

Павіншаваць лаўрэата з высокай узнагародай дзяржавы прыйшлі сябры юнацтва: вядомая паэтэса, пісьменніца Люба Філімонава, драматург Алена Папова, кінарэжысёр, народны артыст Беларусі Міхаіл Пташук.

Люба Філімонава засведчыла, што Раіса Баравікова -- дваццаць восьмы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, а гэта высокае званне надаецца за лепшыя кнігі паэзіі, да Раісы Андрэеўны гэтай высокай узнагароды Бацькаўшчыны былі ўдастоены дзве яркія самабытныя паэтэсы -- Яўгенія Янішчыц і Данута Бічэль-Загнетава. Алена Папова адзначыла, што паэма "Барбара Радзівіл" -- вострасюжэтны гістарычны твор, які ўвойдзе ў скарбніцу нашай літаратуры. Драматург нагадала, што з моманту прэм'ернага паказу і па сённяшні дзень п'еса ідзе на "Вольнай сцэне" з ашаламляльным поспехам.

Шмат шчырых, цёплых слоў у адрас Раісы Баравіковай прагучала на вечарыне ад навукоўцаў музея, настаўнікаў горада. Паэтэса адказала на шматлікія пытанні. Потым адбыўся святочны канцэрт. Песні на словы Раісы Баравіковай прагучалі ў выкананні спявачкі Надзеі Мікуліч. Фальклорны ансамбль "Жавароначкі" выступіў са сваёй цікавай праграмай.

**Людміла ДАВІДОЎСКАЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: знак лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Раісе БАРАВІКОВАЙ уручаюць Старшыня Вярхоўнага Савета М. ГРЫБ і прэм'ер-міністр рэспублікі М. ЧЫГІР.**

У ГАСЦЯХ У НАРОДНАГА МАЙСТРА

Ядвігі РАЙСКАЙ

# "ПРАЛЯТАЙ, ЧАЎНОЧАК, ПРАЛЯТАЙ..."

Ядвізе Аўгустаўне Райскай, якую вы бачыце на здымку, мінула 80 гадоў. Удумлівая, працавітая, няўтомная, яна і цяпер працягвае сваё любімае рамяство -- тчэ прыгожыя ўзорыстыя дываны і ходнікі на ручным ткацкім станку -- кроснах. Драўляны станок шырокі, прыстасаваны для ткання вырабаў на ўсю іх неабходную шырыню. Працаваць на такім стане значна цяжэй, чым на вузкім, гэта ведае кожная ткачыха. Аднак сталая, але вопытная майстрыха па-ранейшаму спраўляецца з працай.

Хуткімі, спрытнымі рухамі таленавітых рук Ядвіга Аўгустаўна кладзе ў зеў адну за другой уточную нітку, ледзь паспяваеш назіраць за лятаючым туды-сюды чаўнаком. Адначасова жанчына назірае за стварэннем беражкоў, якія на яе вырабах вылучаюцца надзвычайнай акуратнасцю і амаль не адрозніваюцца ад беражкоў фабрычных тканін. Раўнамерна пастуквае бярдо, прыціскаючы ды прыбіваючы уточыну, якая, пераплятаючыся з асноваю, стварае рукатворнае палатно. Улічваючы неабходны парадак, ткачыха падымае адну за другой нічальніцы з саматробнымі льнянымі кабылкамі. Сантыметр за сантыметрам навіваецца дзівосна прыгожая тканіна на драўляны навой, зафіксаваны таксама драўлянай "сабачкай". Ну вось і атрымаўся дыван.

Ядвіга Аўгустаўна пяшчотна здымае тканіну з навоя, апрацоўвае край, потым пры дапамозе кручка, якім плятуць карункі, навязвае мохрыкі, як кажуць ткачыхі на Гродзеншчыне. Яскравы святочны дыван ажно зіхаціць, уражвае высокім майстэрствам, радуе вока. У куточку амаль непрыкметна выткана манаграма. Майстрыха паглядзела крытычным позіркам на сваю працу і адзначыла, што не зусім добра атрымалася, не такімі якаснымі былі фарбавальнікі, і колеры пражы ёй не надта падабаюцца, "не так цешаць вока", як іншы раз. Яна сама фарбуе воўну хатняй апрацоўкі, якую выкарыстоўвае ў якасці асновы і утка. Ядвіга Аўгустаўна, несумненна, адна з самых таленавітых і самых старэйшых майстрых у вобласці і... адзіная ў некаторых адносінах.

Ткацтва ў Панёманскім краі -- рамяство традыцыйнае. Ткуць жанчыны (а некалі ткалі і мужчыны) разнастайныя тканіны дэкаратыўна-побытавага прызначэння. Усе гэтыя вырабы заслугоўваюць увагі і робяць гонар майстрыхам. Аднак тканіны двухасноўныя, з падвойнай структурай палатна, якія так славілі Беларусь у мінулым стагоддзі і на пачатку нашага, а для Гродзеншчыны былі асабліва ўласцівы, тчэ толькі майстрыха з вёскі Адэльск, што непадалёку ад старажытнага Гродна. Тканне так званых "падвойных" вырабаў было распаўсюджана ў Англіі, Германіі, Літве, Іспаніі, Мексіцы, Перу, Італіі, Польшчы, краінах Скандынавіі і іншых. Усе яны па-свойму цікавыя і прыцягваюць увагу шматлікіх даследчыкаў з розных краін. Тканіны падвойныя, якія ствараліся на тэрыторыі Панямоння, мелі свае характэрныя асаблівасці, а таму ў канцы XIX -- пачатку XX стагоддзяў іх вылучылі ў асобную групу пад назвай "гродзенскія дываны". Гэты тэрмін, які выклікае многа спрэчак у сучасных даследчыкаў традыцыйных мастацкіх тканін, захоўваўся да пачатку другой сусветнай вайны. Мяркую, што не варта ўдакладняць, ці былі сапраўды "гродзенскія дываны" больш цікавымі за аналагічныя вырабы іншых мясцін, бясспрэчна толькі, што на тэрыторыі нашага краю яны былі шырока распаўсюджаны ў многіх раёнах. Захаваліся цудоўныя ўзоры такіх тканін у Шчучынскім, Слонімскім, Бераставіцкім, Гродзенскім раёнах. Ёсць вырабы першай паловы XIX і пачатку XX стагоддзяў, ёсць больш сучасныя. Адназначна, што гэта надзвычай цікавая з'ява ў традыцыйным народным мастацтве як на Беларусі, так і ў іншых краінах.

"Гродзенскія дываны" мелі культавае прызначэнне і выкарыстоўваліся ў вясельным ці пахавальным абрадах. Вясельныя тканіны вылучаліся больш яскравым і мажорным каларытам, часта мелі сюжэтны характар малюнка. Іншыя дываны былі больш стрыманымі як па каляровай гаме, так і па складанасці малюнка, па зместу кампазіцыі.

**НА ЗДЫМКАХ: народны майстар Ядвіга РАЙСКАЯ і фрагмент яе дывана.**

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**





## НАШ РЫГОРКА — "У ПЯТРУШКІ"

Берасцейскі тэатр лялек меў гонар прадстаўляць Беларусь на Міжнародным свяце "У Пятрушкі", якое адбывалася ў Маскве ў Цэнтральным акадэмічным тэатры лялек імя С.Абразцова. У госці да расійцаў завіталі калектывы лялечнікаў з Украіны, Польшчы, Італіі, Швейцарыі. Свае спектаклі, большай часткай каляднай тэматыкі, рэпрэзентавалі тэатры лялек з розных куткоў самой Расіі. А берасцейцы паказалі на свяце адну са сваіх лепшых работ -- спектакль "Рыгорка -- ясная зорка" па п'есе А.Вярцінскага ў пастаноўцы Алега Жугжды.

У выкананні Тамары Тэвасян, Івана Герасевіча, Уладзіміра Зайцава ды Юры Цеслі наш Рыгорка быў сустрэты маскоўскім Пятрушкам досыць прыхільна і ці то па-братэрску, ці то па-суседску цёпла.



**Цёплая зіма -- звычайная з'ява ў Беларусі. І таму многія птушкі круглы год не пакідаюць вадаёмы.**
**НА ЗДЫМКУ: лебедзі, што засталіся зімаваць на рацэ Свіслач пад Мінскам.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# "ПРАЛЯТАЙ, ЧАЎНОЧАК, ПРАЛЯТАЙ..."

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

Падвойная структура выкарыстоўвалася таксама для ткання настольнікаў, ходнікаў, якімі часцей за ўсё карысталіся ў святочныя дні ды дні сямейных урачыстасцей.

Для стварэння такіх тканін неабходна было валодаць не толькі сакрэтамі ткацкага рамяства, а таксама вялікай цярплівасцю, вытанчаным эстэтычным густам, уседлівасцю. Падвойныя тканіны вылучаюцца двухколернасцю асновы і утка, пры гэтым колеры пражы блізкія, але процілеглыя па танальнасці: залаціста-карычневыя, шэра-зялёныя і іншыя. Сустракаюцца і іншыя каларыстычныя вырашэнні.

Мінула шмат гадоў, не так часта можна сустрэць дзівосныя двухасноўныя падвойныя вырабы. Тым больш цешыць душу майстэрства Ядвігі Райскай, працоўны стаж якой у галіне народнага ткацтва больш за 60 гадоў. Ткаць простыя тканіны яе навучыла маці, больш складаныя -- навучылася пазней сама. У трыццатыя гады ў вёску Адэльск па запрашэнню мясцовага святара прыехала жанчына з вёскі Багушы (цяпер тэрыторыя Польшчы), якая шчыра перадала сакрэты падвойнага ткацтва нашай ткачысе і яе сяброўцы з суседняй вёскі. Багушоўская майстрыха імкнулася навучыць многіх жанчын гэтаму ткацтву, але самымі здольнымі аказаліся толькі дзве.

З той пары тчэ незвычайныя ў мастацкіх і тэхналагічных адносінах дываны Ядвіга Аўгустаўна. Яна з своеасаблівай апантанасцю ставіцца да свайго рамяства. Нават на вячоркі сястра ды сяброўкі не маглі яе выцягнуць: гэта ж трэба было столькі часу не ткаць кросны, як жа яна магла сабе гэтакае дазволіць! Мяркую, што ў некаторых чытачоў узнікне пытанне: навошта ёй патрэбна было столькі ткаць? Толькі не дзеля багацця матэрыяльнага, хаця менавіта такім шляхам яна зарабляла сабе на жыццё, дапамагала сястры, пляменнікам, цяпер -- іх дзецям. Жыла майстрыха заўсёды сціпла. Яе багацце -- гэта талент, шчырая любоў да народнага мастацтва.

-- Калі б нехта пажадаў навучыцца так ткаць, дык ніякай складанасці тут няма, было б жаданне ды крыху цярплівасці і ўседлівасці. Я ўжо старая, і то нешта атрымліваецца, а ў маладых руках чаўначок проста лятаў ад беражка да беражка. Любіла ткаць!

Майстрыха з гонарам паказвае мне свае прыгожыя рэчы. Рухі паважлівыя, не такія хуткія, як падчас ткацтва. Потым, падумаўшы, кажа з непрыхаваным сумам:

-- Старая я ўжо, дзевяты дзесятак разменяла. Няхай бы больш маладыя дзяўчаты вучыліся ткаць, я ж не хаваю свае сакрэты. Але ўсе ў горад бягуць, хіба там лепш? Калі чалавек мае любоў да працы ды нейкае рамяство ў руках, то яго ўсюды будуць паважаць...

Горкая і шчырая праўда ў словах Ядвігі Аўгустаўны. Жывуць побач у вёсцы маладыя жанчыны, падрастаюць дзяўчынкі, у мясцовай школе ёсць урокі працы. Хацелася б, каб часцей бывалі дзеці, асабліва дзяўчынкі, у старэйшай майстрыхі, каб вучыліся рамяству, добрым адносінам да любой справы, за якую ім прыйдзецца некалі брацца, каб пазнавалі сакрэты дабрыні чалавечай.

Наша паважаная майстрыха навучыла ткаць прыгожыя тканіны жанчын з вёскі Гудзевічы, што ў Мастоўскім раёне. Цяпер падвойныя дываны ствараюцца проста ў адным з пакояў Гудзевіцкага літаратурна-этнаграфічнага музея, дзе па-ранейшаму працуе нястомны Алесь Белакоз, чалавек цікавы і неардынарны. Менавіта ў яго музеі ёсць невялічкая, але значная калекцыя старажытных падвойных дываноў, у тым ліку выраб XIX стагоддзя, атрыманы ў падарунак ад славутай зямлячкі Ларысы Геніюш.

Трэба адзначыць, што Ядвіга Аўгустаўна мае шмат розных дыпломаў, грамат, падарункаў пасля ўдзелу ў разнастайных выставах і святах народных рамёстваў. Але на ўсё гэта яна глядзіць з непрыхаванай іроніяй: што тыя паперкі, падзяка ад людзей, для якіх яна стварае свае рукатворныя цуды, для ее больш значная.

**Валянціна ВОЛАХ.**

## СПОРТ

ТЭНІС. Завяршыўся адкрыты чэмпіянат Аўстраліі, у якім прынялі ўдзел наймацнейшыя спартсмены свету. Вельмі ўдала ў гэтых спаборніцтвах выступіла мінчанка Наталля Зверава: увайшла ў васьмёрку ў адзіночным разрадзе, заняла другое месца ў пары з амерыканкай Д. Фернандэс і заваявала галоўны прыз у змешаным разрадзе, выступаючы з амерыканцам Р. Лічам.

БІЯТЛОН. Стабільна выступае сёлета ў розыгрышы Кубка свету Святлана Парамыгіна. У агульным заліку яна займае трэцяе месца.

Нашы мужчыны пакуль выступаюць няроўна: то перамогі, то паражэнні. На апошнім этапе ў Германіі ў гонцы на 10 кіламетраў першае месца заняў Алег Рыжанкоў. А ў Чэхіі ў спаборніцтвах за Кубак Еўропы каманда юніёраў з Беларусі фінішавала другой у эстафетнай гонцы 4 x 7,5 кіламетра.



**У Баранавіцкім аэраклубе парашутным спортам займаецца больш за 250 чалавек. Скачкі з парашутам прыцягваюць у гэты від толькі людзей мужных, моцных і целам, і духам. Заняткі з імі праводзіць трэнер клуба Сяргей Трошын, які нядаўна прызначаны і старшым трэнерам нацыянальнай зборнай Рэспублікі Беларусь па парашутнаму спорту.**

**НА ЗДЫМКУ: у Баранавіцкім аэраклубе займаецца нямала дзяўчат. Віка МІРОНАВА (злева) і Іра ЛЯЎКОВІЧ паспелі ўжо зрабіць па дзесяць скачкоў.**

# СПІС
## АДРАСОЎ ЗАМЕЖНЫХ УСТАНОЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы**
г. Вільнюс
вул. Клімо, 8
Тэл.: 8-01-22-26 38 28
-""- 26 37 73 (па консульскіх пытаннях)
Факс: 8-01-22 --26 34 43

**Консульскі аддзел Пасольства РБ у Літве**
г. Вільнюс,
вул. Муйцінес, 41
Тэл.: 8-01-22 - 23 06 26

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі**
101000 г. Масква,
вул. Марасейка, 17/6
Тэл.: 8-095 - 924 70 31
Факс: 8-095 - 928 64 03
Консульскі аддзел
101000 г. Масква
Армянскі зав., 6
Тэл. 921 65 89

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у ЗША**
**Embassy of the Republic of Belarus in the USA**
1619 New Hampshire Avenue, N.W.
Washington D.C. 20009
Tel.: (202) 986-1604
Fax: (202) 986-1805

**Пастаяннае прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый**
**Permanent Mission of the Republic of Belarus to the United Nations**
136 East 67th Street,
New York, N.Y. 10021
Tel.: (212) 535 34 20
(212) 772 23 54
Fax: (212) 734 48 10
Консульства Рэспублікі Беларусь у Нью-Йорку
Тэл.: (212) 682 53 92
Факс: (212) 682 54 91

**Пасольства Рэспублікі Беларусь на Украіне,**
252011 г. Кіеў,
вул. Кутузава, 8,
Тэл.: 8-044 - 294 82 12
Факс: 8-044 - 294 80 06

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Францыі**
**Ambassade de la Republique de Belarus en France**
38, Boulevard Suchet
75016, Paris
Tel.: 40 50 10 66
Fax: 45 25 64 00

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Чэшскай Рэспубліцы**
**Velvyslanectvi Republiky Belarus v Ceske Republice**
Schweigerowa 2 - 75
16000 Praha - 6
Ceske Republika
Tel./Fax: 8-10-422 - 32 20 39

**Пастаяннае прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь пры ААН і іншых міжнародных арганізацыях у Жэневе**
**Mission Permanente de la Republique de Belarus aupres de l'Offece des UN et des autres Organisations internationale ayant siege a Geneve**
15 avenue de la Paix
1202 Geneve
Tel./Fax: 4122 - 734 38 44

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Швейцарыі**
39 Neuengasse
3011 Bern
Tel: 4131 - 311 38 00
Fax: 4131 - 311 03 22

**Генеральнае Консульства Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе**
Тэл.: 8-01354 - 3 75 73
- 3 06 92
Факс: 8-01354 - 5 29 45

**Генеральнае Консульства Рэспублікі Беларусь у Таліне**
Тэл./факс: 8-014 - 632 00 70

**Генеральнае Консульства Рэспублікі Беларусь у Каралеўстве Нідэрландаў (Гаага)**
**The Consulate General of the Republic of Belarus in the Kingdom of the Netherlands**
Piet Heinstraat 3
2518 CB Den Haag
Tel.: 31(0)70 - 363 15 66
Fax: 31(0)70 - 364 05 55

**Генеральнае Консульства Рэспублікі Беларусь у Італіі (г. Рым)**
00195 Roma
Via della Giuliana, 113 int. 11
Tel.: 06 - 397 41 268
Fax: 06 - 372 46 34

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



**НАШ АДРАС:**
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77.)
Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 6.
Падпісана да друку 6. 2.1995 г.